НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 7 (748) 22 лютага 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выход... ...ва, у ...

## У Навагрудскім раёне знішчылі свіней

Мінсельгасхарч: Такім чынам адпаведныя службы вучыліся змагацца з афрыканскай чумой. Старонка 10.



# Драма і балаган

У Віцебску пачаўся **працэс Сяргея Каваленкі**. **Старонка 2.**



ТАЦЦЯНА ГАЎРЫЛЬЧЫК

**Тэндэнцыі**

## Іскрынка беларушчыны ці асіметрычны адказ «Белсату»?

**Дзяржава створыць** беларускамоўны тэлеканал.

Ужо ў сярэдзіне сакавіка ў тэставым рэжыме запрацуе новы тэлеканал «Беларусь-3». Ён будзе цалкам беларускамоўным. Такую заяву зрабіў старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька. Па яго словах, у кастрычніку 2012 канал стане абавязковым для ўсіх кабельных аператараў краіны.

«Беларусь-3» плануюць зрабіць чыста культурніцкім. «Будзе найлепшая дакументалістыка, гістарычныя фільмы, дасягненні сусветнага кінематографа, дубляваныя на беларускую мову, ток-шоу культуралагічнага плана, рэлігійныя праграмы, праграмы для дзяцей, школьнікаў», — гаворыцца ў афіцыйнай заяве Белтэлерадыёкампаніі.

Значыць, афіцыйныя палітычныя навіны і «аналітычныя» перадачы беларусам па-ранейшаму будуць пастаўляць расейскамоўныя «Беларусь-1» і АНТ.

### Яшчэ і «Беларусь-24»

«Гэта вельмі прыемная навіна — стварыць беларускамоўны культурніцкі канал, — кажа культавая тэлевядучая Зінаіда Бандарэнка. — Асабліва пасля таго, як сапсаваўся канал «Лад» («Беларусь-2»), калі пераўтварыўся ў нейкае спартыўна-музычнае шоу. А новы канал зможа высекчы невялічкую іскрынку беларушчыны.

**Працяг на старонцы 9.**

**Свята**

### Дзень Волі-2012

Шэсце ад Акадэміі навук да Бангалор. Аргкамітэт узначаліў Уладзімір Колас. **Старонка 3.**



**Суседзі**

### Свядомая Латвія: 75% за латышскую мову

Рэферэндум мабілізаваў латышоў. **Старонка 4.**




**Бізнэс**

### У «Ітэры» адбіраюць «Мінск-Сіці»

На іх месца Лукашэнка хоча паклікаць кітайцаў. **Старонка 5.**



**Музыка**

### Альбом «Ляпісаў» будзе лютым

Песні рабочых карэспандэнтаў аб надзённым. **Старонка 11.**



# Драма і балаган

У Віцебску пачаўся **працэс Сяргея Каваленкі.**



Сяргея Каваленку вінавацяць у тым, што ён парушыў рэжым «хатняй хіміі», прысуджанай яму ў 2010 за вывешаны на гарадской навагодняй яліне бел-чырвона-белы сцяг. Яму пагражае да трох гадоў зняволення.

У Каваленкі двое дзяцей, а жонка сядзіць дома з паўгадовай дачкой. Сям'ю забяспечваў Сяргей, які працаваў будаўніком як прыватны прадпрымальнік.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У аўторак у віцебскім судзе стаяў балаган. Галасілі жанчыны, мяняліся перакладчыкі, людзей выганялі з залы. Падсудны раздзеўся ў клетцы, маладая суддзя раз за разам сыходзіла ў пакой для нарадаў. За гэтым балаганам хавалася драма. Драма асобна ўзятага чалавека і драма цэлай нацыі.

Сяргею Каваленку, які вывесіў бел-чырвона-белы сцяг, пагражаюць тры гады турмы. Ён быў асуджаны да хатняй хіміі, а пасля яго абвінавацілі ў парушэнні рэжыму. Яго пасадзілі ў СІЗА.

Пратэстуючы супраць зняволення, Каваленка двойчы трымаў галадоўку. 37-гадовы будаўнік схуднеў на 25 кг.

Як толькі яго завялі ў судовую залу, Сяргей выгукнуў: «Жыве Беларусь!» І зацягнуў сваім трохі ахрыплым голасам беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Ссохлы, зжаўцелы — маці Сяргея, як толькі яго пабачыла, загаласіла: «Яны яго заб'юць! Не адпушчу, не адпушчу яго ў СІЗА!». А сын, каб паказаць, як ён схуднеў, проста ў клетцы зняў кашулю. Выглядае ён, як з канцлагера. Гэта маму, старую дворнічыху, зусім падкасіла.

Пакуль не пачаўся працэс, Каваленка з клеткі крычаў, што яго 20 дзён прымусова кармілі. Гэта было пасля 30 дзён галадоўкі. Яму пагражалі, што адправяць на «дзявятку», г.зн. у віцебскую псіхушку. Крычаў, што ён перад судом ужо тры дні трымае сухую галадоўку. З залы яму гукалі, каб спыняў галадаць. Перадавалі, што за ягонай справай сочаць у Еўропе. Што Зянон Пазняк заклікаў яго не губіць сябе. Не, я з прынцыпу пайду да канца, адказваў Каваленка.

Справу вядзе маладая суддзя Алена Жук. Пракурор — Лутаў. Апошні амаль не паспеў нічога сказаць. Момантамі суд ператвараўся ў поўны сюр. Нашы рэпарцёры ўпершыню бачаць такое. Абодва бакі страцілі кантроль над сваімі эмоцыямі.

Зрэшты, працэс фантасмагарычны ў сваёй сутнасці — судзяць за сцяг, ды за сцяг на яліне, і дзе тут суддзі схавацца ад гэтай фарсавасці.

Падсудны патрабуе, каб яго судзілі па-беларуску, а беларускі суд на гэта няздольны. Выклікалі перакладчыцу, тая не ўмее толкам перакладаць. Яна кажа слова, Каваленка і публіка крычаць: «Адвод! Няма такога слова па-беларуску!»

Суддзя ідзе на паўгадзіны раіцца, адхіляе адвод перакладчыцы, а тая праз пару хвілін падае самаадвод: «Не ўмею я».

Мама Каваленкі крычыць: «Зладзеі!» Не перабірае яна словаў на адрас уладаў. Сам Каваленка дае палітычную характарыстыку існуючаму рэжыму проста з лавы падсудных у кожным перапынку, прычым на «фені», турэмным жаргоне.

Суддзя выдаліла з залы Леаніда Аўтухова, Хрыстафора Жаляпава, а таксама маці Каваленкі. У зале народ гукае: «А агентаў у цывільным чаму не выдаляеце?»

Гэта незвычайнае змяшанне жанраў: драма Каваленкі — нестандартнага чалавека, які трапіў у турму за свае перакананні. І балаган суда, дзе ўсе «ўдзельнікі працэсу» разумеюць палітычную подбіўку і самі не радыя сваім ролям. А ў ім — родныя Каваленкі, знерваваныя ад перажыванняў.

Каваленка запатрабаваў, каб яму выклікалі «хуткую дапамогу». Доктар Дзмітрый Дубакін паставіў дыягназ: элементарнае знясіленне 1 ступені, гастрыт. Рэкамендаваны медыцынскі нагляд па месцы знаходжання. Гэта значыць у санчасці СІЗА. І не больш за тое. Падстаў для шпіталізацыі няма.

Пасля перапынку Сяргею зноў выклікалі хуткую дапамогу. Іншая брыгада (доктар Фадзееў) дала трохі адрознае заключэнне. Паколькі вынікі агляду розняцца, суд скіраваў зварот у медчасць СІЗА, каб там вызначылі, ці можа Каваленка знаходзіцца ў судзе.

Працэс мае працягнуцца 22 і 23 лютага.

**Сяргей Макарэвіч, Мікола Бугай, Віцебск—Мінск**

# У Мінску зносяць старую Серабранку



VADIM-Z.LIVEJOURNAL.COM

У Мінску зносяць драўляныя хаткі гістарычнага раёна Серабранка — месца непадалёку ад цэнтральнага вакзала, паміж чыгункай і Свіслаччу. На гістарычнай мапе бачна, што калісьці тут размяшчалася аднайменная карчма і, прынамсі, два засценкі.

Горад рос, Ігуменскі тракт стаў вуліцай Маякоўскага, а дамы стаялі некранутымі. Цяпер іх зносяць.

Што з'явіцца ўзамен? Квартал «Чэрвеньскі парк», які мае будаваць кампанія «Лада ОМС — Інжынірынг» экс-дэпутата лукашэнкаўскай палаты Аляксея Ваганава.

**ЯМ**

## Сціcла

### Стаўкі па крэдытах і дэпазітах рэзка ідуць уніз

Інфляцыя рэзка знізілася. А следам за ёй абваліліся стаўкі на міжбанкаўскім рынку. Гэта сімптом фінансавай нармалізацыі.

### Лукашэнка і Прахануў абмеркавалі еўразійскага паэта Міцкевіча

Аляксандр Лукашэнка 21 лютага сустрэўся з расійскім нацыяналістычным публіцыстам Аляксандрам Прахановым. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся сучасная гісторыя, інтэграцыйныя працэсы на постсавецкай прасторы, беларуска-расійскія адносіны, паведаміла прэс-служба Лукашэнкі.

Лукашэнка падарыў Прахану кнігу Уладзіміра Ліхадзедава «Адам Міцкевіч на паштоўках канца XIX — пачатку XX стагоддзя». «Беларусь, як і цяпер, так і тады, была скарбніцай вялікіх людзей, — цытуе Лукашэнку прэс-служба. — Адзін з іх — Адам Міцкевіч. Да гэтага часу спрачаюцца: паляк, літовец, беларус... Ён нарадзіўся ў раёне Навагрудка, і карані яго адсюль, і ён заўсёды цаніў сваю зямлю і вельмі шмат зрабіў».

У сваю чаргу Прахануў заявіў, што назваў бы Міцкевіча «еўразійскім паэтам». Бо новая еўразійская канцэпцыя мае патрэбу ў такога роду геніі», — растлумачыў ён. Варта адзначыць, што сам Міцкевіч сябе еўразійскім паэтам не лічыў.

### А ў 1980 годзе будзе камунізм...

Урад абяцае беларусам сярэдні заробак у 1300 даляраў. Праўда, да 2020 года. Паводле канцэпцыі развіцця прамысловага комплексу да 2020 года, у той час сярэдні заробак мусіць дасягнуць гэтай лічбы, паведаміў намеснік міністра эканомікі Анатоль Філонаў.

### У вядоўцы праграмы «Суд ідзе» — ліпавы дыплом БДУ

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт стаў міжвольным удзельнікам судовага скандалу. Зорка судовага шоу тэлеканала «Россия-1» Уладзімір Арэшнікаў асуджаны за практыку па падробленым дыпломе, нібыта выдадзеным БДУ ў чэрвені 1991-га. Арэшнікаў, паводле дадзеных следства, 12 гадоў займаўся незаконнай юрыдычнай практыкай.

**СГ**

## Самае чытанае на nn.by за 15—21 лютага

1. Аўтар эратычнай фотасесіі ў метро выклаў здымкі ў інтэрнэт + фота
2. Суд над Каваленкам: драма і балаган
3. Litesound і Гюнэш засудзілі? Спявачка з'ехала, не чакаючы фіналу
4. Моладзь раздавала «Хрэн вам ад прэзідэнта» на Камароўцы
5. «Ланская можа заязджаць за шлагбаум на «Мерсэдэсе»
6. Як забяспечвалі перамогу Ланской + фота шэдэўральнага цыркуляра
7. Свядомая Латвія: 75% прагаласавалі супраць афіцыйнага двухмоўя
8. Лукашэнка даручыў разабрацца з галасаваннем на «Еўрафэсце»
9. Дарафеева — журналісту «Камсамолкі»: «Вы не падумалі, што ў мяне ёсць мужчына»
10. Фотафакт: Замкнёная на шостым паверсе жанчына здолела дастаць пляшку гарэлкі

# Аргкамітэт Дня Волі ўзначаліў Уладзімір Колас

Шэсце на 25 Сакавіка пройдзе **ад Акадэміі навук да Бангалор**.

Аргкамітэт па святкаванні Дня Волі (25 Сакавіка) вырашыў, што сёлетняе шэсце будзе адбывацца па маршруце «Акадэмія навук — плошча Бангалор».

«Прынялі кампраміснае рашэнне. Каб задаволіць і больш радыкальных, і тых, хто хоча адчуваць бяспеку», — кажа лідар АГП Анатоль Лябедзька.

Зрэшты, апошнія гады бывала, што з Акадэміі навук дэманстранты так нікуды і не рушылі, праводзячы там мітынг.

Старшынёй аргкамітэта абраны старшыня Рады інтэлігенцыі, дырэктар Коласаўскага ліцэя Уладзімір Колас. Ганаровы старшыня — Івонка Сурвіла.

Уладзімір Колас на нашае пытанне аб маршруце акцыі адказаў: «Ёсць пэўныя напрацоўкі, але нічога канкрэтнага мы не вырашылі, яшчэ будзем збірацца на дадатковае абмеркаванне. У чацвер на прэс-канферэнцыі ўсё абвесцім публічна».

Апошні час Уладзімір Колас не быў такім заўважным у публічнай палітыцы. Хоць ён разглядаўся як імаверны кандыдат на выбары ў 2006. Цяпер вось зноў з'явіўся на відных ролях.

У працы аргкамітэта бралі ўдзел АГП, «Гавары праўду», «Еўрапейская Беларусь», Хрысціянская дэмакратыя, Рада інтэлігенцыі.

Партыі БНФ і Руху «За свабоду» на пасяджэнні не прадстаўляў ніхто. «Спадзяюся, гэта вірус грыпу, а не палітычны вірус», — кажа Лябедзька.

Старшыню АГП не палохаюць абвінавачванні ў тым, што шэсце пройдзе да Бангалор. «Ніхто не замінае людзям проста прыйсці да Акадэміі. Цяпер самае галоўнае, каб прыйшло больш людзей, калі ў Расіі прыходзілі дзясяткі, то іх збівалі. Калі пачалі выходзіць дзясяткі тысячаў, то іх запаважалі».

Дзень Волі адзначаецца ў гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918. Штогод у гэты дзень адбываюцца вулічныя акцыі пад бел-чырвонабелымі сцягамі. Сёлета Дзень Волі прыпаў на нядзелю.

**Штогод на Дзень Волі адбываюцца акцыі пад бел-чырвона-белымі сцягамі »**

Зміцер Панкавец



SVABODA.ORG

**Уладзімір Колас**
Нарадзіўся ў Мінску ў 1951. Кінарэжысёр, педагог. Заснавальнік і дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя, які пасля ліквідацыі працягвае дзейнічаць падпольна. Кіраўнік Рады беларускай інтэлігенцыі.

# На парламенцкія выбары вылучаць 6000 назіральнікаў



**Падлік галасоў адбываецца, каб назіральнікі нічога не пабачылі.**

PHOTO BYMEDIA.NET

Партыя БНФ, Рух «За Свабоду» і «Зялёныя» заявілі аб сумеснай кампаніі па назіранні за выбарамі **«Народны кантроль»**.

На мінулых прэзідэнцкіх выбарах кампанію назірання курыравалі старшыня «Справядлівага свету» Сяргей Калякін і тагачасны намеснік кіраўніка Руху «За Свабоду» Віктар Карняенка. Іх кампанія называлася «За справядлівыя выбары». Сёлета яны таксама збіраюцца займацца назіраннем.

Такім чынам, у апазіцыі будзе цэлых дзве ініцыятывы па назіранні за выбарамі. Каардынатар кампаніі «Народны кантроль» Юрась Губарэвіч кажа: «Ніякага канфлікту няма, кампанія Калякіна і Карняенкі была досыць закансерваваная, яны хацелі пакінуць усё, як было, многія нашы прапановы не былі пачутыя. Магчыма, пазней яны даспеюць да таго, каб працаваць разам. На сябе коўдру мы не перацягваем».

«Чым болей назіральнікаў, тым лепей, — перакананы Сяргей Калякін. — Калі будуць з'яўляцца ініцыятывы грамадзян па назіранні, то мы таксама гатовыя іх падтрымаць».

І «За справядлівыя выбары», і «Народны кантроль» гатовыя вылучыць для назірання па 3000 чалавек. Хаця Сяргей Калякін перакананы, што гэтага мала.

«Каб закрыць усе ўчасткі, нам трэба мінімум 20 тысяч чалавек. Незалежна ад таго, ёсць дэмакратычныя кандыдаты на акрузе ці няма. Трэба ж таксама фіксаваць яўку», — перакананы лідар «Справядлівага свету».

Юрась Губарэвіч кажа, што найперш людзі будуць вылучацца ў акруговыя і тэрытарыяльныя камісіі, каб удзельнічаць у падліку галасоў.

«Калі будуць адмовы, то гэта адзін з найбольш пераканаўчых довадаў аб несправядлівасці выбараў».

Што тычыцца простага назірання на ўчастках, то досвед мінулых гадоў паказвае: кантралёры пазбаўленыя магчымасці бачыць падлік галасоў. Звычайна сябры выбарчых камісій закрываюць стол шчыльным колам.

ЗП

# Мартынава не запрасілі ў Прагу

На **сустрэчу кіраўнікоў МЗС** Вышаградскай групы і краін «Усходняга партнёрства».

Сустрэча павінна адбыцца 4 сакавіка ў Празе. Беларускі міністр запрашэння не атрымаў, пра гэта паведаміў пасол па асаблівых даручэннях МЗС Чэхіі Петэр Мараш.

«Абодва бакі ведаюць, што трэба зрабіць, каб запрашэнне адбылося», — сказаў чэшскі дыпламат.

Мараш знаходзіўся ў Мінску з двухдзённым візітам, падчас якога сустрэўся з прадстаўнікамі МЗС, міністэрстваў культуры і адукацыі, БДУ і Нацыянальнай акадэміі навук.

Адказваючы на пытанне, ці ўздымалася падчас перамоў тэма палітзняволеных, пасол па асаблівых даручэннях адказаў адмоўна. А наяўны стан адносінаў Беларусі і Чэхіі ён назваў «тупіком».

«Выйсці з гэтага тупіка можна толькі намаганнямі двух бакоў, і нам здаецца, што наша рука для супрацоўніцтва ўжо працягнута, чакаем зараз рукі Мінска», — падкрэсліў пасол.

У МЗС Беларусі сказалі, што Сяргей Мартынаў і не планаваў удзельнічаць у гэтай сустрэчы ў Празе.

ЗП

# Ярашука палохаюць крымінальнай справай

**За заклік аб байкоце** беларускіх тавараў.

Генеральная пракуратура ўгледзела ў заяве лідара Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука аб магчымасці байкоту беларускіх тавараў у Еўрасаюзе прыкметы складу злачынства.

Тлумачэнні Аляксандру Ярашуку давялося даваць больш за 3 гадзіны.

Цікава, што гутарыў з лідарам незалежных прафсаюзаў начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Павел Радзівонаў. Той самы, які перад гэтым угледзеў «склад злачынства» ў выказваннях лідара гурту «Ляпіс Трубяцкой» Сяргея Міхалка. Праўда, потым пракуратура вырашыла, што ўсё ў парадку, і справу не заводзіла.



Ярашука папярэдзілі, што яго дзеянні могуць быць кваліфікаваныя па ч. 2 артыкула 361 Крымінальнага кодэкса РБ як «заклікі, звернутыя да замежнай дзяржавы, замежнай або міжнароднай арганізацыі ажыццявіць дзеянні на шкоду вонкавай бяспецы Беларусі, яе суверэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасці, нацыянальнай бяспецы і абароназдольнасці, альбо распаўсюд матэрыялаў, якія змяшчаюць такія заклікі».

А таксама па артыкуле 369 частка 1 КК як «прадстаўленне замежнай дзяржаве, замежнай або міжнароднай арганізацыі загадзя ілжывых звестак аб палітычным, эканамічным, сацыяльным, ваенным ці міжнародным становішчы Рэспублікі Беларусь, што дыскрэдытуюць краіну або яе органы ўлады». Дзеянні, прадугледжаныя гэтымі артыкуламі, караюцца пазбаўленнем волі ад 2 да 5 гадоў.

ЗП

# Свядомая Латвія: 75% прагаласавалі за латышскую мову

**Нават у расейскамоўнай Рызе** 63% выбарцаў галасавалі за дзяржаўную латышскую.

Вынік плебісцыту па пытанні нададання расійскай мове статусу другой дзяржаўнай аказаўся разгромным для ягоных ініцыятараў. Паводле ЦВК Латвіі, 74,8% выбарцаў прагаласавалі Pret, г.зн. па-латышску супраць: то бок за тое, каб адзінай дзяржаўнай мовай заставалася латышская «valoda».

Па-першае, рэферэндум мабілізаваў латышоў, якія звычайна па сваёй палітычнай актыўнасці саступалі расійскамоўным. У рэферэндуме ўзялі ўдзел больш за 70% выбарцаў. Гэта рэкордная для Латвіі яўка.

Па-другое, ён актывізаваў аматараў латышскай мовы, якія адчулі пагрозу. І па-трэцяе, ён паказаў, што вялікая доля этнічных расійцаў разумее нацыятворчае і культурнае значэнне латышскай мовы і паважае родную мову карэннага насельніцтва.

«Супраць» галасавала таксама даволі вялікая частка этнічных расійцаў і беларусаў Латвіі. У прыватнасці, у Рызе, дзе расійскамоўныя складаюць значную большасць, 60% выбарцаў галасавалі супраць афіцыйнага двухмоўя.

Адзіным рэгіёнам, дзе большасць прагаласавала за двухмоўе, стала Латгалія. Гэта вобласць, што мяжуе з Беларуссю і дзе да першай паловы XX стагоддзя панавала беларуская мова.

Паказальна, што беларусы з таварыства «Світанак» таксама заклікалі суайчыннікаў падтрымаць латышскую мову ў якасці адзінай дзяржаўнай.

Ініцыятар рэферэндуму, былы нацыянал-бальшавік Уладзімір Ліндэрман сам не верыў у поспех і перад галасаваннем заявіў, што маленькай перамогай будзе, калі 300 тысяч чалавек прагаласуюць за расійскую мову, што дасць магчымасць праводзіць новыя акцыі. У рэальнасці не ўдалося сабраць нават столькі.

Кіраўніцтва Латвіі цешыцца прагрэсу нацыянальнай свядомасці. На думку латвійскіх паліталагаў, вынікі галасавання — гэта добры знак таго, што нацыянальныя меншасці ўспрымаюць сябе часткай Латвіі і разумеюць значэнне нацыянальнай мовы для будучыні нацыі.

Варта адзначыць, што 290 тыс. жыхароў Латвіі не маюць права голасу як неграмадзяне краіны (не здалі або не схацелі здаваць экзамен на грамадзянства, які ўключае, дарэчы, і моўны тэст). Аднак нават калі б яны ўсе мелі права голасу, усё адно прыхільнікі адзінай дзяржаўнай латышскай засталіся б у абсалютнай большасці.

Галасавалі таксама латышы за мяжой. Так, у Мінску, у пасольстве, прагаласавалі 93 чалавекі, у Віцебскім консульстве — 13.

**Мікола Бугай**




**Абаронцы латышскай мовы адказалі на ініцыятыву рэферэндуму кампаніяй Pret, г.зн. Супраць — рашучай аж да непаліткарэктнасці. Плакат праціўнікаў афіцыйнага двухмоўя: «Скажам яснае «не» расійскай мове. На рэферэндуме галасуй супраць дзвюхмоўя».**

### Міфы пра неграмадзянаў Латвіі

Трэба патлумачыць, чаму ўвогуле неграмадзяне з'явіліся.

1. Неграмадзянаў краіны менш, чым многія думаюць: усяго 290 тысяч паводле апошняга перапісу.

2. Гэтыя неграмадзяне маюць тыя самыя правы, што і грамадзяне, акрамя адзінага — права галасаваць. Яны карыстаюцца тымі самымі правамі на ахову здароўя і сацыяльную абарону, напрыклад. Яны таксама маюць магчымасць свабодна перамяшчацца ў межах Еўрасаюза, як і грамадзяне.

3. Яны маюць лёгкую магчымасць атрымаць грамадзянства. Для гэтага досыць здаць экзамен на веданне латышскай мовы і гісторыі, а таксама прынесці прысягу на вернасць Латвіі.

4. Доля расійцаў у насельніцтве Латвіі вырасла з 9% у 1935 годзе да 27% у 1959 годзе.

Каб застрахавацца ад палітычнай нестабільнасці, незалежніцкі рух Латвіі вырашыў, што грамадзянства новай незалежнай краіны атрымаюць спачатку толькі грамадзяне па стане на 1940 год і іх нашчадкі.

Т.зв. неграмадзяне атрымалі магчымасць здаць экзамен на грамадзянства пасля пераходнага перыяду. Гэтым правам скарысталіся 134 тысячы чалавек. За 20 гадоў незалежнасці доля латышоў у насельніцтве вырасла з 52 да 62%. Варта адзначыць, што за той жа час доля беларусаў у Беларусі вырасла з 77 да 84%.

**МБ**

# Паўстанцы пад сценамі Дамаска

Паўстанцы фармуюць свае батальёны **ў жывым эфіры**.



У сакавіку будзе ўжо год, як у Сірыі неспакойна. Пратэстоўцы са зброяй у руках патрабуюць адстаўкі прэзідэнта Башара Асада. Падзеі ў Сірыі пачыналіся амаль у адзін час з Егіптам і Лівіяй.

Нават ААН было вымушанае выказацца па сітуацыі ў гэтай краіне. Рэзалюцыя ААН патрабуе ад уладаў Сірыі спыніць рэпрэсіі супраць насельніцтва.

Цікавы спіс краін, што галасавалі супраць рэзалюцыі: Кітай, Расія, Іран, Венесуэла, Куба, Паўночная Карэя, Балівія, Эквадор, Нікарагуа, Зімбабвэ, сама Сірыя і наша Беларусь. Лабіравалі рэзалюцыю арабскія краіны — Саудаўская Аравія і Катар. Пасля прыняцця рэзалюцыі абстрэлы толькі ўзмацніліся.

Сам Асад кажа, што гатовы ісці на невялікія саступкі. 26 лютага ў краіне павінен адбыцца рэферэндум па зменах у Канстытуцыю. Але некаторыя лічаць, што прэзідэнт істотна спазніўся з такой прапановай, час кампрамісаў мінуў. У ЗША абяцанне рэферэндуму называюць смехатворным.

Пасля ўвядзення супраць краіны эканамічных санкцый унутраны валавы прадукт упаў на 45%. Асабліва балюча гэта ўдарыла на экспарце нафты з Сірыі, а таксама турыстычным бізнэсе. Пра гэта сказаў адзін з найбуйнейшых бізнэсменаў краіны, сын былога прэзідэнта Сірыі Файзал Кудсі. На ягоную думку, арміі хопіць не болей, чым на паўгода.

Паўстанцы базуюцца ў гарадах Хомс і Хама. Урадавыя войскі абстрэльваюць артылерыяй Хомс амаль два тыдні, за гэты час было забіта каля 400 чалавек. Агулам жа за час хваляванняў загінула 7 тысяч сірыйцаў. Адбываюццаператрусы і арышты сябраў «Свабоднай арміі Сірыі» — гэта былыя вайскоўцы, што перайшлі на бок дэманстрантаў. Яны зачытваюць прысягу на відэакамеру, а потым выкладваюць ролікі на Ю-тубе.

У чацвер і суботу магутныя дэманстрацыі пракаціліся па цэнтральным раёне Дамаска — Мазэху. Дагэтуль паўстанне абмяжоўвалася бядняцкімі прыгарадамі сталіцы. Маніфестанты скандавалі па-арабску: «Душу і цела мы пакладзем за цябе, братні Хомс».

Кіраўніцтва не дапускае ўводу ў Сірыю міжнародных міратворцаў. Афіцыйная прапаганда абвінавачвае апазіцыю, што яна дзейнічае па наводцы з-за мяжы. Рыторыка падобная да беларускай.

Паўстанцы ўжо цяпер знаходзяцца пад Дамаскам. Не падобна, што ўрадавыя войскі здолеюць задушыць паўстанне. Фактычна краіна знаходзіцца ў стане грамадзянскай вайны.

Праходзілі акцыі пратэсту і ля пасольства Сірыі ў Мінску. Праціўнікі і прыхільнікі Асада сабралі прыкладна роўную колькасць удзельнікаў.

**Зміцер Панкавец**

### Башар Асад

Прэзідэнт Сірыі. Сын былога прэзідэнта Хафеза Асада. Па адукацыі — доктар-афтальмолаг. Стажыраваўся ў Вялікабрытаніі. Пасля смерці брата Басіля стаў галоўным прэтэндэнтам на пераемнасць улады ад бацькі. Атрымаў дадатковую вайсковую адукацыю. Кіраўніком краіны стаў у чэрвені 2000. На безальтэрнатыўных выбарах Асад «набірае» звыш 97% галасоў. Наколькі моцнай была «народная любоў» да кіраўніка, можна бачыць па цяперашніх пратэстах.




### Сірыя

Дзяржава на Блізкім Усходзе. Мяжуе з Ізраілем, Ліванам, Іярданіяй, Іракам, Турцыяй. Сталіца — Дамаск. Насельніцтва — 20 мільёнаў чалавек. Краіна займае адно з апошніх месцаў у пытанні правоў чалавека. Праваабарончыя арганізацыі кажуць пра наяўнасць у краіне сотняў палітвязняў, катаванні, адсутнасць справядлівай і незалежнай судовай сістэмы, дыскрымінацыю жанчын і нацыянальных меншасцяў.
Ад сакавіка 2010 у краіне не спыняюцца пратэсты за палітычную рэформу і адстаўку прэзідэнта.
Ад 1963 у краіне дзейнічала надзвычайнае становішча, якое было адмененае пад пратэстамі летась.

# У «Ітэры» адбіраюць «Мінск-Сіці»

**На месца расійскай кампаніі Лукашэнка хоча паклікаць кітайцаў.**

Для будаўніцтва дзелавога цэнтра «Мінск-Сіці» будзе знойдзены іншы інвестар замест расійскай газавай кампаніі «Ітэра». Такое рашэнне агучыў Аляксандр Лукашэнка 16 лютага, заслухаўшы чарговы даклад аб сітуацыі на будоўлі. Дарэчы, яшчэ за тыдзень да гэтага Мінгарвыканкам вывесіў аб'яву пра пошук інвестара на сваім сайце.

Рэалізацыя аднаго з самых дарагіх праектаў у гісторыі Беларусі (нароўні з Астравецкай АЭС) апынулася пад пагрозай, хоць чыноўнікі і пераконваюць, што перад імі

Раней ад фінансавання «Мінск-Сіці» адмовіліся расійскія «Су-155» (15% праекта) і «Унукава-Інвест» (5%)

стаіць чарга ахвотных атрымаць ласы кавалак мінскай зямлі. «Ёсць шэраг зваротаў іншых інвестыцыйных кампаній з розных краін. Ім будзе прапанавана ўвайсці ў рэалізацыю гэтага праекта на тых жа ўмовах, якія былі першапачаткова агавораны для дзейнага на гэты момант інвестара, — заявіў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька. — Мы аператыўна зоймемся гэтай працай, і адпаведная прапанова інвестыцыйным кампаніям і фондам будзе ўнесеная».

Раней Аляксандр Лукашэнка называў толькі аднаго патэнцыйнага забудоўшчыка — Кітай. «Мы былі б вельмі зацікаўленыя, каб кітайцы прыехалі і дапамаглі нам пабудаваць», — казаў кіраўнік дзяржавы.

Аднак пакуль інвестыцыйная дамова юрыдычна не разарваная, расійцы прэтэндуюць хаця б на частковую кампенсацыю сваіх выдаткаў. Паводле інфармацыі


Разрэкламаваны праект звёўся да пабудовы панэльных дамоў.


Праект расійскіх архітэктараў (абраны за базавы).


Праект «Мінскграда».


Праект нідэрландскіх архітэктараў.

прэс-службы «Ітэры», на дадзены момант інвестарам укладзена каля $15 мільёнаў.

### Долевы «Мінск-Сіці»

Гучная прэзентацыя «Мінск-Сіці» адбылася ўлетку 2007-га. Тады ж было аб'яўлена, што будаўніцтва «горада ў горадзе» на месцы аэрапорта «Мінск-1» будзе каштаваць гіганцкія $30 мільярдаў. Разынкай комплексу меўся быць 80-павярховы хмарачос «Бусел». Вакол яго — жылыя кварталы, гатэлі, офісы, якія б зрабілі «Мінск-Сіці» новым бізнэс-цэнтрам. Аднак сур'ёзная будоўля так і не пачалася.

Праз невыкананне ўмоваў кантракта расійскага інвестара і выганяюць з Беларусі. Лукашэнка не раз патрабаваў, каб «Ітэра» працавала хутчэй. Расійцы ў адказ прасілі дапамогі, напрыклад, вынесці з тэрыторыі будаўніцтва авіярамонтны завод за бюджэтныя грошы (каля $200 мільёнаў). У крызіс эканоміка праекта змянілася, і кіраўніцтва расійскай кампаніі пачало сумнявацца ў акупляльнасці «Мінск-Сіці».

### Панэльны дзелавы цэнтр

Праз пяць гадоў «працы» дабудаванымі аказаліся ўсяго чатыры жылыя дамы на ўскрайку выдзеленай тэрыторыі, дый тыя — звычайныя панэльныя шматпавярховікі. Аздобныя працы амаль скончаныя, і дамы збіраюцца здаць у эксплуатацыю ў сакавіку ці красавіку. Дарэчы, будаваліся яны долевым спосабам, а не з дапамогай сродкаў «Ітэры».

«Я браў крэдыт, каб пасяліцца ў новым цэнтры горада, а апынуўся з краю прамысловай зоны. Побач тут і могілкі, і чыгунка — і гэта «Мінск-Сіці»! — абурана кажа дольшчык, сустрэты каля дома. Ён прадставіўся індывідуальным прадпрымальнікам Аляксеем. «Я не кажу пра інфраструктуру, бо яе тут проста няма. І ніхто не захоча будаваць садкі, школы ці нават крамы для жыльцоў чатырох дамоў. Але пакуль што галоўнае — хаця б атрымаць ключы ад сваіх кватэраў», — кажа ён.

«Ітэра» будуе стадыёны, іпадромы і гатэлі ў Туркменістане і катэджны пасёлак у Падмаскоўі.

Дольшчыкі з насцярогай чакаюць вырашэння канфлікту дзяржавы і «Ітэры». «А што ж цяпер будзе са здачай дамоў, шлагбаумам, відэакамерамі, пліткай і кветкамі? Крый божа, пры «разводзе» загразнуць у судовых спрэчках. Страшна і падумаць нават», — пішуць на форуме ў інтэрнэце. Некатовыя выказваюць меркаванне, што найлепшым выйсцем з сітуацыі была б перадача няскончанай будоўлі МАПІДу. Справа ў тым, што ў пачатку гэтага месяца пачалося будаўніцтва яшчэ некалькіх панэльных дамоў. Ці захоча іх дароблівацъ «Ітэра», ніхто не ведае.

**Ягор Марціновіч**

# Інвестыцыйныя правалы мінскіх уладаў

**Самыя амбітныя дарагія праекты, якія скончыліся пшыкам.**

Чым гучнейшыя абяцанні, тым большая імавернасць, што яны не будуць выкананыя. Менавіта так даводзіцца ўспрымаць інвестыцыйныя дамовы, якія год за годам заключаюць мінскія ўлады. Шматмільярдныя кантракты нярэдка аказваюцца пустышкамі. «Наша Ніва» узгадала самыя амбітныя праекты, якія на выхадзе скончыліся пшыкам.

### 1. Спартыўная імперыя Уладзіміра Раманава

Літоўскі банкір Уладзімір Раманаў наабяцаў залатыя горы яшчэ папярэдняму старшыню Мінгарвыканкама Міхаілу Паўлаву. Згодна з агучанымі планамі, да канца 2011 на месцы стадыёна «Трактар» мусіла паўстаць 45-тысячная нацыянальная футбольная арэна з некалькімі трэніровачнымі палямі і гатэлем побач.

Літовец на словах пагадзіўся з просьбамі мінскіх уладаў, але працы так і не пачаліся. У выніку ён не выканаў ніводнага з абяцанняў. Сёлета Раманаў канчаткова спыніў фінансаванне мінскага футбольнага клуба «Партызан», якім валодаў, і цяпер ніякіх спраў з Беларуссю мець не хоча. А спартыўна-забаўляльны комплекс за 250 мільёнаў еўра будзе шукаць новага інвестара.

### 2. «Ітэра Таўэрз»

Кампанія «Ітэра» застанецца ў памяці мінскіх уладаў не толькі як няўдалы кампаньён па згорнутым будаўніцтве «Мінск-Сіці». Яшчэ адзін праект, будаўніцтва першых у гісторыі Беларусі хмарачосаў каля станцыі метро «Фрунзенская», таксама падыходзіць да свайго заўчаснага фіналу.

Ідэя стварэння дзвюх гіганцкіх круглых вежаў па 50–60 паверхаў трансфармавалася ў будаўніцтва 32-павярховага жылога дома, дагэтуль няскончанае. Падчас мінулагодняга дэфіцыту будматэрыялаў будоўля цалкам спынілася на некалькі месяцаў. Цяпер працы над домам патроху ідуць, але ад тэмпаў продажу кватэраў «Ітэра» далёка не ў захапленні.

Радуюцца толькі жыхары суседніх дамоў, якія ў свой час змагаліся супраць архітэктурнага «ворага». Ваяваць не давялося — інвестар можа сысці сам.

### 3. «Маяк Мінска»

Будаўніцтва футурыстычных хмарачосаў з рэндараў «Маяка Мінска» адклалася на няпэўны тэрмін. Але нават калі рукі будаўнікоў дойдуць да іх, то ранейшыя планы ніхто рэалізоўваць не будзе. Гэта ў 2008-м, каб залагодзіць мінскія ўлады, нікому не вядомы інвестар «Зомекс Інвестмент» абяцаў патраціць $4 мільярды і паставіць каля Нацыянальнай бібліятэкі вежу на 80 паверхаў вышынёй 300 метраў. Побач з ёй на рэндарах былі намаляваныя восем 40-павярховых дамоў.

Цяпер патэнцыйны праект у вышыню «ўсох» удвая, але інвестар не рэалізуе і яго. Адзін за адным здаюцца ў эксплуатацыю толькі дзесяціпавярховыя жылыя дамы з прыгожымі назвамі «Рэмбрандт», «Ван Гог» і «Манэ», але гэта, відавочна, далёка не тое, чаго чакалі ўлады. Лукашэнка ўжо сустракаўся з інвестарамі і патрабаваў, каб тыя паскорыліся, інакш аб'ект можа чакаць лёс «Мінск-Сіці».

**ЯМ**

## Сцісла

### У Беларусі з'явіўся новы банк

Нацбанк зарэгістраваў 32-і банк на тэрыторыі Беларусі. Ім стаў ЗАТ «Банк інвестыцыйных тэхналогій» («БІТ-Банк»), створаны з удзелам замежнага капіталу. Статутны фонд новага банка складзе ўсяго $7,2 мільёна.

### Ювеліры аб'ядноўваюцца ў холдынг

Дзяржаўная праграма інавацыйнага развіцця прадугледжвае, што ў склад ювелірнага холдынга ўвойдуць гомельскі «Крышталь», «Белгран» і, магчыма, «Белювеліргандаль». На першых двух прадпрыемствах ужо пачаліся працы па аб'яднанні ў адной структуры.

### МВФ з'ехаў

Пастаянная прадстаўніца Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі Наталля Калядзіна пакіне свой пост у красавіку. Яна адпрацавала ў Беларусі свой трохгадовы тэрмін. Новага прадстаўніка прызначаць не будуць. Такая магчымасць будзе разгледжаная толькі калі беларускі бок заплануе новую праграму.

### Незваротных продажаў не бывае

Урад Чарнагорыі прыняў рашэнне вярнуць пад поўны дзяржаўны кантроль найбуйнейшае прадпрыемства краіны «Камбінат алюмінію Падгорыцы», доля якога належыць расійскаму алігарху Алегу Дзерыпаску. Кантрольны пакет акцый прадпрыемства быў прададзены падчас прыватызацыі ў канцы 2005 года.

**ЯМ**

# Рабочыя «Граніта» не супакойваюцца

**Звольнены лідар** страйкоўцаў.

Сябры першаснай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза мікашэвіцкага «Граніта» гатовыя зладзіць папераджальную забастоўку. Такім чынам яны хочуць дабіцца аднаўлення на працы звольненых Алега Стахаевіча і Людмілы Літвінка. Пад заявай падпісаліся 28 чалавек.

Пра развіццё сітуацыі на «Граніце» «НН» расказаў старшыня БНП Мікалай Зімін. Па яго словах, старшыню пярвічкі Алега Стахаевіча звольнілі пасля таго, як Лунінецкі раённы суд прызнаў законным пазбаўленне яго пасведчання кіроўцы на паўгода. Загад падпісаны 20 лютага.

«Афіцыйна Алега звольнілі нібыта праз страту магчымасці выконваць свае абавязкі. Пры гэтым яму не прапанавалі іншай працы на прадпрыемстве, а ён дыпламаваны інжынер, на «Граніт» у свой час уладкаваўся слесарам па рамонце грузавікоў», — кажа сп. Зімін.

Людміла Літвінка — жонка сакратара першаснай арганізацыі БНП. Замяняла супрацоўніцу, якая была ў дэкрэтным адпачынку. Тая не дабыла два гады адпачынку і выйшла на працу.

Старшыня БНП кажа, што кіраўніцтва прадпрыемства на іх заяву пакуль не адказала. Але рэакцыя ўжо ёсць. «Усіх, хто напісаў заяву, выклікаюць на гутарку невядомыя людзі, якія, магчыма, прыехалі з Мінска».

Напрыканцы мінулага года некалькі соцень рабочых «Граніта» выйшлі з афіцыйнага прафсаюза. Пазней на прадпрыемстве была ўтвораная першасная арганізацыя БНП. Яе дагэтуль не зарэгістравалі.

**Сямён Печанко**

**У Оршы паўсотні рабочых пагражаюць выходам з ФПБ**

Каля 50 супрацоўнікаў Аршанскіх электрасетак напісалі калектыўную заяву на выхад з прафсаюза, не атрымаўшы даплаты за шкодныя ўмовы працы. Даведаўшыся пра гэта, адміністрацыя паабяцала выправіць сітуацыю.



**Алега Стахаевіча (у цэнтры) ахоўнік выводзіць з прадпрыемства пасьля звальненьня. Папераддзе — сакратар незалежнага прафсаюзу на «Граніце» Анатоль Літвінка.**

# Хто самы багаты чалавек у Беларусі?

**Апытанне на вуліцах** сталіцы.

*1. Хто самы багаты чалавек у Беларусі?*
*2. Што трэба зрабіць, каб разбагацець у нашай краіне?*



**1.** А яны ёсць, багатыя людзі ў Беларусі?
**2.** У нас немагчыма зарабіць грошай.



**1.** «Нафтавікі», напэўна, нейкія, «Лукойл».
**2.** Скрасці штонебудзь дарагое.



**1.** Банкаўскія працаўнікі.
**2.** З'ехаць.



1. У каго ўлады больш, той і багаты.
**2.** Добрая праца, добрая сям'я і ўмераныя запыты.



**1.** Той, хто болей скраў.
**2.** Трэба, каб кіраўнікі падымалі ўзровень людзей, а па-іншаму як мы можам разбагацець?



**1.** Спартоўцы. Магчыма, Азаранка.
**2.** Трэба мець добрую адукацыю, не менш важныя сувязі, каб нехта дапамог. Потым трэба мець упартасць, працаваць і зарабляць сваім розумам.



**2.** Не ведаю, што трэба рабіць, але ўражанне, што найбольш багатыя тыя, хто зарабляе несумленна.



**1.** Я. У мяне ўсё ёсць для жыцця.
**2.** Каб жыць ў шчасці, то трэба красці, красці, красці.



**1.** Я лічу, што духоўнае багацце больш важнае за матэрыяльнае.
**2.** У Беларусі немагчыма гэта. Каб такім багатым быць пры сучаснай палітыцы, не. Не думаю, што можна так разбагацець.



**1.** Мабыць, нехта, хто самы прыбліжаны да прэзідэнта. Напрыклад, яго сын.
**2.** На мой погляд, у нашай краіне няпроста разбагацець, адкрыць сваю справу, напрыклад, вельмі складана. Але каб было ў цябе ўсё добра... Вось мая мара — адкрыць свой бар, дзе будуць выступаць нейкія музыкі, дзе можна будзе прыйсці з сябрамі, пасядзець і адпачыць, і гэта будзе найлепшае, што можа быць у жыцці.



**1.** Я лічу, тыя хто займае якіянебудзь значныя пасады і ўнеслі ўклад у развіццё эканомікі.



**1.** Я не люблю лічыць чужыя грошы. А-а-а, гэта ж правакацыйнае пытанне: напэўна, Аляксандр Рыгоравіч?



**1.** Прэзідэнт. У інтэрнэце напісалі, што на яго рахунку 14,5 млрд даляраў.



**1.** Я думаю, з афіцыйна названых — гэта таварыш, які кіруе ЗАА, якое гандлюе ваеннай тэхнікай, — нехта Пефціеў. Ён лічыцца саветнікам нашага прэзідэнта. Не ведаю, які ён саветнік, мне сумна каментаваць гэта. Думаю, гэта адзін з афіцыйна названых, але пра астатніх час падкажа.

**Запісала Настасся Шамрэй**

# Неўладкаванасць і малы заробак, або Чаму маладыя спецыялісты бягуць з вёскі

«Советская Белоруссія» тлумачыць **дэфіцыт кадраў** перакосамі ў сістэме адукацыі.

Газета Адміністрацыі прэзідэнта напісала пра дэфіцыт аграномаў, ветэрынараў, сацыяльных педагогаў у сельскай мясцовасці. Прычына — перакосы ў сістэме, мяркуе аўтар артыкула «Пастукалі не ў тыя дзверы». Маўляў, юрыстаў і эканамістаў шмат, а аграномаў і заатэхнікаў не хапае. «Можа, прыйшоў час ВНУ падкарэктаваць набор на некаторыя спецыяльнасці? На адны — скараціць колькасць паступаючых. Даць льготы тым, хто хоча вучыцца, а галоўнае — працаваць у сельскай гаспадарцы», — прапануе аўтар артыкула.

«СБ» закранае важную праблему, але, як выглядае, называе не ўсе прычыны, чаму маладыя спецыялісты не застаюцца ў вёсцы пасля адпрацоўкі дыплома. А такіх, па звестках Беларускай дзяржаўнай сельгасакадэміі (Горкі), каля паловы. Газета цытуе рэктара акадэміі, які кажа, што ў свой час яго ВНУ палюбілі гараджане, часта не прыстасаваныя да цяжкай працы на зямлі. Але, як сведчыць сацапытанне студэнтаў усё той жа акадэміі, пытанне, ці застануцца яны працаваць па месцы размеркавання далей, залежыць ад таго, ці задаволіць іх памер заробку, жыллё і кіраўнік. Магчыма, на гэта і варта найперш звярнуць увагу, каб ліквідаваць дэфіцыт спецыялістаў.

Пра тое, чаму з вёскі бягуць маладыя спецыялісты, «НН» расказала супрацоўніца аднаго з сельгаспрадпрыемстваў Брэстчыны, ветэрынар з вышэйшай адукацыяй.

«Першая і галоўная прычына такіх уцёкаў — непавага з боку кіраўніцтва. І не толькі да нас, маладых спецыялістаў, якія тут фактычна ніхто, а абсалютна да ўсіх падначаленых».

Не задавальняе яе і памер заробку. «Абяцалі з пачатку года заробак больш за мільён, але ён дагэтуль да мільёна не дацягвае».

Побытавыя ўмовы таксама выклікаюць пытанні. «Дом далі, але на гэтым усё. Паліва трэба нарыхтаваць самастойна і за свой кошт. Загаварыла пра гэта з начальнікам, а ён у адказ — гэта не наша праблема».

Дзяўчына цвёрда вырашыла з'ехаць з гэтай гаспадаркі пасля адпрацоўкі. Але прафесію кідаць не збіраецца, будзе шукаць лепшага месца. «Не для таго я атрымлівала вышэйшую адукацыю».

**СП**

# Mercedes рэкламуе сябе па-беларуску




Дылер кампаніі пачаў акцыю **«Беларуская серыя»**.

Афіцыйны прадстаўнік кампаніі Mercedes-Benz у Беларусі, Аўтамабільны дом «Энергія ГмбХ» распачаў акцыю «Беларуская серыя». І хоць у слогане выкарыстоўваецца знаёмае нам «Купляйце беларускае!», на сайце арганізатараў акцыі падкрэсліваецца, што беларускімі ў дадзеным выпадку будуць «надзвычай нізкі для «Мерсэдэса» кошт, па якім аўто будуць прадаваць у Беларусі», і «маленькая налепка «Беларуская серыя» на багажніку». Па «беларускіх цэнах» кампанія прапануе аўтамабілі E, C і GLK-класаў.

Беларускую мову ў сваёй дзейнасці выкарыстоўвае і аўтацэнтр «Атлант-М Баравая» Ford, які летась ініцыяваў правядзенне ў сценах кампаніі дзён беларускай мовы.

**СП**

# Пяць студэнтаў-палітыкаў выключылі з мінскіх універсітэтаў

Афіцыйная версія — **непаспяховасць.**

З другога курса Інстытута журналістыкі БДУ адлічылі Насту Шулейку. Летам 2011 дзяўчына была адной з арганізатарак дапамогі затрыманым за «вечары апладысментаў». Ва ўніверсітэце яна мела запазычанасці па заліках, праз што яе не дапусцілі да сесіі.

У апошні дзень мінулага года дзяўчыну затрымалі каля ІЧУ на Акрэсціна. Новы год яна правяла за кратамі. Здаць экзамены ёй так і не дазволілі. А калі яна патэлефанавала ў лютым у дэканат, каб даведацца, што будзе далей з яе пазычанасцямі, даведалася аб адлічэнні. Адпаведны загад быў падпісаны яшчэ 24 студзеня.

Наста адзначыла, што ніякіх дакументаў з міліцыі адміністрацыя ВНУ не атрымлівала. Паводле яе інфармацыі, самі супрацоўнікі адсочваюць такія падзеі ў інтэрнэце.

25 лістапада Шулейку затрымалі падчас акцыі ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Пасля гэтага ва ўніверсітэце была створана адмысловая камісія, на якой вырашалі, адлічыць дзяўчыну з ВНУ ці вынесці вымову. Спыніліся на апошнім варыянце. У гадавіну выбараў студэнтку затрымалі паўторна, падчас малітвы каля Чырвонага касцёла. Тады яна атрымала 700 тысяч штрафу.

Наста не збіраецца з'язджаць за мяжу — спадзяецца паступіць на завочнае аддзяленне ў Вільню, каб застацца ў Беларусі.

З Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта адлічылі адразу трох студэнтаў. Гэта актывісты «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандр Салдаценка, Мікіта Каваленка і Аляксандр Вялітчанка. Афіцыйная версія адлічэння — непаспяховасць у навучанні: маладых людзей таксама не дапусцілі да сесіі. Самі ж хлопцы называюць іншую прычыну — іх грамадзянскую пазіцыю. Восенню ўсе трое адбывалі адміністрацыйныя арышты за ўдзел у акцыях салідарнасці з палітычнымі зняволенымі ў Беларусі. Каваленка затрымліваўся паўторна ў студзені сёлета падчас адзіночнай акцыі каля будынка КДБ у Мінску.




СЯРГЕЙ ЯГЕЛА

Наста Шулейка выступала ў абарону палітвязняў.

У лістападзе 2011 рэктарка Лінгвістычнага Натальля Баранава вынесла студэнтам «афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацьпраўных паводзінаў».

Месца ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце страціў маладафронтавец Міхась Мускі. 19 снежня студэнта затрымалі падчас малітвы каля Чырвонага касцёла. Яму прысудзілі дзесяць сутак арышту. Падчас зняволення да яго прыходзілі супрацоўнікі КДБ, якія пагражалі адлічэннем з універсітэта.

Беларусь — адзіная краіна Еўропы, дзе студэнтаў выганяюць з універсітэтаў за ўдзел у палітычнай дзейнасці. У студзені гэтага года працоўная група Балонскага працэсу вынесла вердыкт: «Беларусь не гатовая далучыцца да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі». Сярод іншага, еўрапейская акадэмічная супольнасць лічыць, што беларускія ўлады мусяць «забяспечыць абарону правоў студэнтаў».

**Сяргей Макарэвіч**

# Шукалі наркотыкі — забралі ўлёткі

На кватэры актывістаў «Еўрапейскай Беларусі» **зладзілі аблаву.**

15 лютага ў Мінску міліцыянты зладзілі ператрус на кватэры, якую здымаюць актывісты грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». Яраслава Грышчэню, Дзмітрыя Калача і Ганну Салаўёву міліцыянты ў цывільным затрымалі ўвечары на вуліцы ў раёне плошчы Перамогі. Па словах Грышчэні, яго адразу павалілі на зямлю і білі нагамі. Затым усіх адвялі на кватэру, што здымалі актывісты. Дзверы адамкнулі ключамі, якія дасталі з кішэні Грышчэні. Унутры знаходзіліся яшчэ шасцёра актывістаў.

Падчас ператрусу, які праводзілі нібыта ў пошуку наркотыкаў, забралі ўлёткі і плакаты грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» з партрэтамі палітвязняў, налепкі, бел-чырвона-белыя сцягі. Прычым пратакол не складаўся.

## Калі б наркотыкі знайшлі, то так проста юнакоў не адпусцілі б

Пасля маладых людзей адвезлі ў РУУСы Мінска. У адных узялі адбіткі пальцаў і тлумачэнні, ці ўжываюць яны наркотыкі, іншых адпусцілі без складання пратаколаў. Збіты Яраслаў Грышчэня будзе абскарджваць дзеянні міліцыі.



Збіты Яраслаў Грышчэння будзе абскарджваць дзеянні міліцыі.

SVABODA.ORG

Ведома, калі б знайшлі наркотыкі, то завялі б крымінальную справу і так проста юнакоў не адпусцілі. Нядаўна таксама наркотыкі шукалі ў «Ліцвінскім клубе». Тады супрацоўнікі міліцыі дзейнічалі аналагічным чынам.

**Кастусь Матушыч**

У Наваполацку невядомыя збілі 19-гадовага Дзмітрыя Рыжычэнку. Малады чалавек звязвае напад на яго з тым, што за дзень да гэтага ў інтэрнэце расказаў пра спробы яго вярбоўкі. Працяглы перыяд яму тэлефанавалі людзі, якія называліся супрацоўнікамі КДБ. Яны прасілі расказаць пра настроі сяброў Дзмітрыя, а таксама пра дзейнасць яго маці Вольгі Дамаскінай, якая з'яўляецца актывісткай Руху «За Свабоду». Хлопец адмовіўся супрацоўнічаць, а пра вярбоўку расказаў пасля таго, як да яго на кватэру камітэтчыкі прыйшлі з ператрусам. У пастанове гаварылася, што Дзмітрый можа мець дачыненне да антыграмадскіх графіці ў горадзе.

# Колькасць палітвязняў прапануюць павялічыць

З пятнаццаці **да васямнаццаці.**

З такой прапановай выступіла каардынацыйная група па вызваленні палітвязняў і рэпрэсаваных «За Волю». Далучыць да ліку асобаў, арыштаваных ці асуджаных па палітычных матывах, прапануюць Аляксандра Малчанава, Аляксандра Крутога і Юрыя Чыгілейчыка.

Малчанаў арыштаваны па падазрэнні ў крадзяжы металалому. Крутога суд Маскоўскага раёна Мінска пастанавіў адправіць на прымусовае лячэнне. Мужчыну прызналі вінаватым у тым, што на лекара ён выліў слоік мачы. Дачка Крутога Інэса мяркуе, што крымінальны пераслед бацькі звязаны з судовым разборам па справе аб тэракце ў мінскім метро, па якім яна праходзіла пацярпелай, а бацька абараняў яе інтарэсы. Інакш мужчыну затрымалі б адразу пасля інцыдэнту ў паліклініцы, а не пасля пачатку працэсу над Канавалавым і Кавалёвым.

Чыгілейчыка вінавацяць у незаконным абароце наркотыкаў. Па словах праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі, наркотыкі Юрыю былі падкінутыя пры затрыманні. Чыгілейчык пасля адседкі за махлярства пачаў супрацоўнічаць з праваабаронцамі. Праз яго стаў вядомы факт самаспалення ў Івацэвіцкай калоніі ПК-5 і іншая інфармацыя. Чыгілейчык фігураваў у гнюсным рэпартажы на БТ. Ён быў, праўда, збіты. Бандарэнка тады адзначыў, што Юрыя прымусілі сказаць тое, што ён сказаў.

**СМ**

# Падрабязнасці здзекаў з Дашкевіча

Яго спрабавалі пасадзіць у **камеру з «апушчаным»**, як раней Саннікава.

На мінулым тыдні са Змітром Дашкевічам сустрэўся адвакат. Ад яго стала вядома, што супрацоўнікі калоніі спрабавалі сілай змясціць палітвязня ў камеру да «апушчанага». Згодна з турэмнымі законамі, у такім выпадку Дашкевіч аўтаматычна атрымаў бы нізкі статус сярод зняволеных. За адмову падпарадкавацца адміністрацыі калоніі палітвязня змясцілі ў ШІЗА. Дашкевіч лічыць, што гэтая правакацыя задумана для таго, каб з'явілася падстава для новай крымінальнай справы — за супраціў супрацоўнікам калоніі.

Гэта не першая спроба дыскрэдытаваць палітвязня. Раней быў паказаны рэпартаж па БТ, у якім ставілася пытанне пра статус Дашкевіча і Саннікава ў калоніі. Да апошняга таксама спрабавалі падсадзіць «апушчанага». Галоўнае — паставіць пад сумнеў арыентацыю асуджанага. Гэтага дастаткова, каб пертварыцца ў недатыкальнага і стаць аб'ектам для агульных прыніжэнняў.

Такі ціск можна звязаць з тым, што Зміцер так і не падпісаў прашэння аб памілаванні.

**КМ**

Дашкевіч у лісце да нявесты Насты Палажанкі выказаўся пра сітуацыю з Андрэем Саннікавым. «Падпісаўшы прашэнне аб памілаванні, Саннікаў робіць адзіна правільны і магчымы ўчынак у той сітуацыі, у якой ён знаходзіцца. Пры ўсёй маёй павазе да Дзмітрыя Уса ды іншых мужных людзей, якія пацярпелі ад пераследу за «выбары»-2010, яны не зведалі і адной дзясятай таго гвалту, фізічных і маральных здзекаў, якія зведаў Андрэй Алегавіч. У дадатак да ўсяго гэтага, існуе рэальная пагроза жыццю і здароўю ягонай сям'і. У такіх абставінах любы мусіў бы ўсімі магчымымі сродкамі абараняць сваіх родных».

# Нечаканка: Глеб стаў гульцом самарскіх «Крылаў Саветаў»

**Найлепшы беларускі футбаліст** апошняга дзесяцігоддзя перайшоў у стан аўтсайдара расійскага першынства.



Ці расправіць Глеб яшчэ крылы свайго таленту?

Кантракт з Глебам разлічаны на паўгода, да канца чэмпіянату Расіі. На сённяшні момант «Крылы Саветаў» займаюць 13-ы радок у чэмпіянаце Расіі, і іх чакае напружаная барацьба за выжыванне.

Перад гэтым Аляксандр разарваў кантракт з найлепшым клубам свету «Барселонай». «Крылы Саветаў» — першы клуб Глеба на ўсход ад Барысава. Кар'ера Глеба праходзіла ў нямецкіх «Штутгарце», «Вольфсбургу», англійскіх «Арсенале», «Бірмінгеме», іспанскай «Барселоне».

Сапраўднай зоркай еўрапейскага футбола ён стаў у форме лонданскага «Арсенала», з якім беларус даходзіў да фінала Лігі чэмпіёнаў. Пасля пераходу ў «Барселону» кар'ера імкліва пайшла па нахіленай.

Глебу 30 гадоў, узрост для футбаліста яшчэ не крытычны, за зборную Беларусі ён правёў 55 матчаў, дзе забіў 6 галоў.

«Крылы Саветаў» робяцца самым беларускім клубам у расійскай Прэм'ер-лізе. Апроч Глеба ў камандзе гуляюць варатар Сяргей Верамко, абаронцы Дзмітрый Молаш і Дзмітрый Верхаўцоў, форвард Сяргей Карніленка.

Зміцер Панкавец



## Заспявай нам, доктар Хаўз

У Мінск прыедзе **Х'ю Лоры**.

Летам у сталіцу завітае выканаўца галоўнай ролі ў папулярным серыяле «Доктар Хаўз» — брытанскі акцёр, парадыст і музыка Х'ю Лоры. Ён з'явіцца ў амплуа джазавага музыкі: прэзентаваць новы альбом Let Them Talk.

Гурт Х'ю Лоры выконвае каверы класічных джазавых песень 30-х і 40-х гадоў. Голас Лоры пасуе да гэтай музыкі — акцёр заўжды выглядаў як музыка з Поўдня ЗША, нягледзячы на оксфардскае паходжанне.

Дзякуючы «Доктару Хаўзу» Let Them Talk стаў самым прадаваным блюзавым альбомам у Брытаніі (192 тысяч копій). Таму калі вы любіце лёгкі, вясёлы, мэйнстрымавы джаз — на канцэрт ісці варта. Выступ адбудзецца 22 чэрвеня ў Палацы Рэспублікі.

Юрась Ускоў

## Новы кліп N.R.M.: нашэсце статуэтак

У сеціве з'явіўся першы кліп гурта **без Лявона Вольскага**.

Песня «Прамень» — пра тое, як не хапае сонца ў зімовыя месяцы. Ахвотныя могуць бачыць у гэтым як палітычныя падтэксты, так і намёкі на кадравыя пертурбацыі ў гурце. У кліпе — вечныя ідэі, што дабро пераможа зло, а летам лепей, чым зімой.

Зняў кліп польскі рэжысёр Яцак Ташакоўскі. Вартымі ўвагі яму падаліся кіёск з праваслаўнымі іконамі і дэкор мікрараёна Уручча. Цэнтральны сюжэт кліпа таксама турыстычны — музыкі ў сонечна-жоўтых касцюмах у абцяжку (з надпісам чамусьці «wspolna sprawa» на рукаве) наведваюць Камароўку і іншыя памятныя мясціны. Пад канец ва ўсіх мінакоў з міліцыяй уключна з-пад шэрых куртак паказваюцца бліскучыя касцюмы. Мінск нібы акупавалі статуэткі «Оскара».

СМ



**Фотафакт**



**Міліцыя дазволіла ездзіць з «Пагоняй»**

Жыхар Гродна Руслан Пяцько асрэчыў дзеянні ДАІ. Міліцыя спачатку палічыла ягоную «Пагоню» за парушэнне ПДД. Аднак УУС Гро-дзенскага аблвыканкама ў выяве бел-чырвона-белага сцяга на шкле машыны парушэння не знайшло. Пяцько вярнулі канфіскаваныя плакаты, якія ён адразу ж зноў прымацаваў да аўтамабіля.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Чорная дзіра

Тыдні два таму на адной вечарыне да мяне падсела незнаёмая сталага веку жанчына і паказала здымак: «Пазнаяце?» На здымку, ужо кранутым жаўцізной часу, ляжаў на шырокай канапе, падпіраючы галаву, нейкі стары чалавек у таўстых акулярах... «Так, — не чакаючы адказу, прамовіла жанчына, — гэта Саша Ахраменка... Яго ўжо няма...»

Нешта цісканула ў сэрцы і захаладзела пад дыхавіцай — толькі ўчора я бачыў яго, углядаючыся ў чорную бездань былой купалаўскай сцэны...

Я падышоў да тэатра незнарок, спрабуючы наўскос, праз Аляксандраўскі сквер, скараціць дарогу да метро. Але натыкнуўся на там-сям падраную агароджу, абапал якой былі раскіданыя па брудным снезе будаўнічае смецце і рэшткі дрэў — непазбежных, як заўсёды сцвярджаюць будаўнікі, ахвяр рэканструкцыі.

Я, безумоўна, ведаў пра рэканструкцыю Купалаўскага тэатра, неаднойчы ўглядаўся ў яе намаляваны на тканіне фасадны твар. Але ўпершыню ўбачыў яе з чорнага ўваходу.

Уваходу, аднак, не было. Замест яго зеўрала агромністая чорная дзіра, уцягваючы позірк у нейкую неабсяжную касмічную далячынь. Нават рэдкія лямпачкі на нябачнай столі зіхацелі, нібы зоркі...

Тут я і пабачыў Сашку. Мы не бачыліся амаль 60 гадоў. Вось ён кліча мяне да чорнага ўваходу, дзе сустракае нас ягоны бацька, скрыпач з тэатральнага аркестра, і цішком, бо спектакль ужо пачаўся, вядзе ва ўрадавую ложу, адкуль з заміраннем сэрца сочым, як каварства забівае любоў... У антракце мы, тузаючы адзін аднаго, бяжым вузкім калідорчыкам ва ўборную Ферды-

## Душу «рэканструктары» не шукаюць

нанда, хіхікаючы над назвай таямнічага памяшкання. Фердынанд, ён жа знакаміты ў хуткай будучыні Барыс Кудраўцаў, зняўшы шпагу, частуе нас шакаладам, налівае з графіна ў гранёную шклянкунейкую вадкасць, выпівае, падносячы да носа рукаў вышытага срэбрам камзола...

...Я ўглядаўся ў чорную дзіру, і адтуль з'явілася раптам Стэфанія: «Ну што, дадому?»

Па праве чалавека, адоранага не тэатральным, а простым чалавечым сяброўствам, я часцяком падвозіў Стануту пасля спектакляў, асабліва на сыходзе дзявятага дзясятка яе гадоў. Мы доўга жылі з ёй у адным доме, на адным паверсе, дзверы ў дзверы. Потым яна перабралася ў іншы дом, паверх апусцеў...

Апусцеў паверх, думаў я, калі яна сышла на зломе стагоддзяў у іншы свет. Паверх, на якім яна жыла побач з намі і які называўся ХХ стагоддзем. Так, мы перабяромся, ускараскаемся на новы. Але ці ўздымемся? Ці засвоім вышыню Духа, якую паказалі нам — не, не сведкі — творцы Стагоддзя?..

...Я ўглядаўся ў чорную дзіру, яшчэ не ведаючы, што праз дзень-два нейкія зверападобныя страшыдлы з надпісам Hitachi на даўжэзнай жоўтай шыі канчаткова зруйнуюць старыя сцены.

...Я ўглядаўся ў чорную дзіру, яшчэ дрэнна разумеючы, да чаго падобная гэтая «рэканструкцыя» з чорнага ўваходу. І толькі ўвечары, гледзячы, як сакураўскі Фаўст у пошуках душы дастае вантробы з анатаміраванага трупа, я зразумеў гэтае вар'яцкае падабенства...

Але душу «рэканструктары» не шукаюць. Выкідаюць яе разам з вантробамі...

Сёння яны гавораць пра немагчымасць захаваць старыя сцены, нешта лапочуць пра сучасную «сцэнічную каробку» і зручныя падлакотнікі для гледачоў.

Так, ён паўстане праз нейкі час, новы тэатр для новых мінчукоў. Але душы ў ім не будзе. А калі і будзе, то невядома якая. Толькі не тая, якая жыве спрадвек.

Бо душа жыве разам са старымі сценамі.

Разам з памяццю жыве і захоўваецца душа.

...Я паехаў да Сашкавай жонкі, мы доўга размаўлялі, кожны са сваімі пытаннямі і ўспамінамі. З прыхаваным гонарам і нейкай пяшчотай яна расказвала, якім ён быў выдатным музыкам, як граў і ствараў бліскучыя джазавыя кампазіцыі ў знакамітым аркестры Барыса Райскага... «Ён усё жыццё згадваў вас, усё пытаўся сам у сябе, як вы там...»

Ну вось, падумаў я, яшчэ адна чорная дзіра. Памерам з жыццё.

...У астрафізіцы чорная дзіра — гэта такое ўтварэнне, у якім касмічная гравітацыя дзейнічае з такой звышмоцай, што святло, якім там зіхацяць зоркі, нават са сваёй неверагоднай хуткасцю не можа пераадолець яе. Таму яны і нябачныя нам.

Але яны ёсць.

*kamerton_41@mail.ru*

# Іскрынка беларушчыны ці асіметрычны адказ «Белсату»?

Працяг са старонкі 1.

Гледачы зараз ставяцца да беларускай мовы па-іншаму, — кажа Зінаіда Бандарэнка. — Цяпер з'явілася разуменне і зацікаўленасць, і калі яны змогуць удзельнічаць у жыцці канала, то вынік можа быць выдатным. Але ж усё залежыць ад людзей, якія будуць кіраваць каналам. З тых, хто застаўся ў Белатэлерадыёкампаніі, зрабіць канал якасным мог бы Уладзімір Субат».

Сапраўды, з падобнай беларускамоўна-культурніцкай мэтай ствараўся ў 2003 тэлеканал «Лад». Плануецца, што пасля з'яўлення «Беларусь-3» канал «Беларусь-2» канчаткова стане спартова-забаўляльным, а «Беларусь-1» — універсальным, паведамляе тэлекампанія. У перспектыве ж абавязковым стане і кругласутачны інфармацыйна-аналітычны канал «Беларусь-24». Дарэчы, назвы каналаў Белтэлерадыёкампаніі дакладна скапіяваныя з расійскіх.


Канал будзе абавязковым для ўсіх кабельных аператараў »

Стварэнне «Беларусь-3» лабіруе Генадзь Давыдзька.

PHOTO BYMEDIA.NET

### Чыю частату зойме «Беларусь-3»?

«Тэставы рэжым» з сакавіка — гэта яшчэ не вяшчанне. Гэта толькі падрыхтоўка да арганізацыі вяшчання, тлумачаць у Белтэлерадыёкампаніі. Іншых тэхнічных падрабязнасцяў тэлевізійнікі не паведамляюць. Пойдзе ж канал, відаць, пад канец года.

Пакідаюць пытанні і некаторыя тэхнічныя дэталі. Для таго каб «Беларусь-3» можна было глядзець ва ўсёй краіне і ў аналагавым, і ў лічбавым фармаце, тэлеканал мусіць атрымаць пэўную частату. Іх колькасць абмежаваная. Паколь агульнабеларускі статус маюць «Беларусь-1», «Беларусь-2», АНТ, СТБ, «НТВ-Беларусь», «РТР-Беларусь», «Мір».

Белтэлерадыёкампанія афіцыйна абвергла выказаную на сайце nn.by версію, што «Беларусь-3» можа атрымаць частату канала «НТВ-Беларусь». «Адмову ад трансляцыі канала «НТВ-Беларусь» Белтэлерадыёкампанія не плануе», — адзначаецца ў лісце. Такая заява, між тым, не абвяргае меркавання, што «Беларусь-3» можа накласціся на «РТР-Беларусь» ці саюзны тэлеканал «Мір».

### За якія грошы?

Яшчэ адно пытанне — фінансаванне. «У Расіі доля аўдыторыі тэлеканала «Культура» складае 1,4%, рэйтынг праграм не перавышае 0,9—1%, — кажа былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі. — Гэта значыць, што ён цалкам датуецца з дзяржбюджэту. Гаворка ідзе пра прыкладна $70—100 мільёнаў штогод. У Беларусі з бюджэтам самі ведаеце як...». Па словах Генадзя Давыдзькі, стварыць «Беларусь-3» будуць без прыцягнення бюджэтных сродкаў. За якія — Белтэлерадыёкампанія не дае адказу.

І ці ёсць сэнс марнаваць дадатковыя сродкі, чые б яны ні былі? — нібы задаецца пытаннем Зімоўскі, які зараз працуе ў Расіі. «Тэхнічна ідэя выканальная за адзін тыдзень. Дастаткова перавесці тэлеканал «Беларусь-2» на цалкам беларускае вяшчанне», — кажа ён. У дужках таксама можам задаць пытанне, чаму ён сам такое не зрабіў у бытнасць начальнікам тэлебачання. Відаць, яму не ставілі такой задачы.

### Пытанне якасці

У ацэнках кантэнту новага канала, які ствараецца без бюджэтных датацый, Зімоўскі быў яшчэ больш рэзкі: «Хутчэй за ўсё, гледачам прапануюць панылае г...о, якое назаўжды адверне аўдыторыю ад беларускай мовы і культуры. Ну, і можаце яшчэ ўспомніць нашую прыказку пра абяцанкі-цацанкі».

Стваральнік самых папулярных і запамінальных культурных праграмаў па-беларуску, ужо былы супрацоўнік Белтэлерадыёкампаніі Алесь Матафонаў лічыць, што лагічней было б стварыць спартыўны канал. «У нас ныдрэнна рэалізуюцца спартыўныя праекты, — кажа ён. — Апошнія месяцы, што я працаваў на БТ, была актыўнасць у кірунку стварэння культурніцкага канала. Як я разумею, пэўныя праекты «Лада», а таксама трансляцыі «Еўрабачання» і «Славянскага базара» будуць проста перанесеныя на новы канал.

Але галоўнае пытанне наконт «Беларусь-3» — ці там з'явяцца сапраўды вартыя культурныя праекты і новыя асобы, якія змогуць іх ажыццявіць. Наколькі прадзюсарам удасца мабілізаваць людзей. Зараз праходзяць кастынгі для вядоўцаў, але іх трэба праводзіць увесь час, а не толькі перад запускам новага канала».

### Фактар «Белсата»

Нельга сцвярджаць, што «Беларусь-3» — чыстая ініцыятыва зверху і плод палітычнай кан'юнктуры. Стварэння беларускамоўнага тэлеканала для ўсёй краіны гадамі дабівалася Таварыства беларускай мовы, бамбардуючы лістамі Белтэлерадыёкампанію і Адміністрацыю прэзідэнта, і заклікаючы ўсіх неабыякавых грамадзянаў рабіць тое самае. Калола вочы адказным чыноўнікам і тое, што на сёння адзіны цалкам беларускамоўны тэлеканал — незалежны «Белсат», які вяшчае з Польшчы, а ў Беларусі гадамі не атрымлівае акрэдытацыі.

«Памятайма, што некаторы час таму у дзяржаўным ТБ усё часцей пачалі з'яўляцца навіны пабеларуску, а цяпер ідзе гаворка і пра цэлы канал, — адзначае кіраўнік рэдакцыі інфармацыйных праграм «Белсата» Аляксей Дзікавіцкі. — На маю думку, прысутнасць у медыяпрасторы цалкам беларускамоўнага «Белсата» дало падставы заварушыцца і чыноўнікам: трэба канкураваць. Гэта пазітыўны фактар. Іншая справа, наколькі якасна гэты канал будзе зроблены, колькі ў ім будзе беларускасці. Нават калі і не атрымаецца — прынамсі, творчаму калектыву будзе карысна: падвучаць родную мову».

**Ягор Марціновіч, ЮУ**

# Ланская ці Litesound?

**Вынікі галасавання на «Еўрафэсце» правярае прэзідэнцкая камісія.**

Скандал вакол фіналу «Еўрафэсту» набыў максімальны размах: вынікі галасавання расследуе камісія, склад якой засакрэчаны, «каб пазбегнуць карупцыі».

Нагадаем сутнасць канфлікту: прадстаўнікі гурта Litesound сцвярджаюць, што па выніках глядацкага галасавання на фэсце перамаглі яны. Маўляў, калі пераможца быў вызначаны, але яшчэ не аб'яўлены, «людзі з журы» паведамілі ім пра гэта. Але пуцёўку на «Еўрабачанне» ў Баку атрымала Алена Ланская. Абурэння Litesound'у дадавала тое, што напярэдадні «Еўрафэсту» прыходзілі дзіўныя сведчанні з рэгіёнаў: нібыта агітацыя за Ланскую там адбываецца з прыцягненнем адмінрэсурсу.

Цягам цэлага тыдня матэрыялы, прысвечаныя «Еўрафэсту», былі самымі чытанымі ў белнэце. Як паведамілі «Беларускія навіны» і партал Tut.by са спасылкай на крыніцу ў Белтэлерадыёкампаніі, Лукашэнка нават стварыў спецыяльную камісію, якой даручана разабрацца, наколькі аб'ектыўна быў вызначаны пераможца «Еўрафэсту».

Белтэлерадыёкампанія афіцыйна не пацвярджае інфармацыі наконт існавання камісіі. Хоць, напрыклад, Аляксей Хлястоў, адзін з сяброў журы, прызнаўся, што ў яго запытвалі пра ацэнку ўдзельнікаў і прасілі прааналізаваць вынікі.

Іншы сябра журы «Еўрафэсту», кампазітар Яўген Алейнік, паведаміў карэспандэнту «НН», што пакуль з камісіяй не сутыкаўся: «Я магу прад'явіць свой бюлетэнь, ніякага сакрэта там няма, — кажа Алейнік. — Што тычыцца галасавання 14 лютага, то я ведаў толькі тыя вынікі, якія выставіў сам. Вынікаў тэлефоннага галасавання я не бачыў, і дзе яны і як выглядаюць — вось у гэтым усё пытанне».

«Аднак агульны вынік нам вядомы. Гурт Litesound заняў першае месца па глядацкім галасаванні», — кажа Дзмітрый Каракін, прадзюсар і бацька удзельнікаў Litesound у інтэрв'ю «Беларускім навінам». Пачуўшы ж абвешчаныя па ТБ вынікі, ён у запале кінуў шклянку ў столь.


Хлопцы з Litesound некалі непрыгожа выказваліся пра беларуску мову.

PHOTO BYMEDIA.NET

«Белтэлекам» вынікаў глядацкага галасавання не каментуе. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што камісія прэзідэнцкая, між тым у інтэрнэце сцвярджалі, што кампанію чарговага «твару Беларусі» таксама арганізоўвалі на загад зверху.

**Юрась Ускоў**

# Мінсельгасхарч: Свіней у Навагрудскім раёне знішчылі ў рамках вучэнняў

Такім чынам адпаведныя службы вучыліся змагацца з **афрыканскай чумой**.

**Афрыканская чума**

віруснае захворванне свіней. Свінню трасе, скура сінее, ва ўнутраных органах збіраецца кроў. Вірус разносіцца лёгка, амаль усе заражаныя жывёлы гінуць. Людзі на свіную чуму не хварэюць, але заразу пераносяць.




**Гаспадары рэзалі свіней, не чакаючы ветслужбы.**

Мінсельгасхарч у аўторак размясціў на сваім сайце афіцыйную інфармацыю пра дзеянні санітарных службаў у Навагрудскім раёне. Рэч у тым, што ў вёсцы Нязнанава санслужбы знішчылі свіней з прыватных падворкаў.

З паведамлення міністэрства вынікае, што «на тэрыторыі Навагрудскага і Карэліцкага раёнаў Гродзенскай вобласці 16—18 лютага 2012 былі праведзены рэгіянальныя вучэнні ў рэжыме максімальна набліжанай да рэальных умоў абстаноўкі, з прымяненнем эфекту нечаканасці і адпрацоўкай усіх канкрэтных дзеянняў і прафілактычных мерапрыемстваў».

Варта адзначыць, што афіцыйныя тлумачэнні міністэрства з’явіліся праз пяць дзён пасля падзеяў на Навагрудчыне. Да гэтага часу афіцыйныя асобы не каментавалі сітуацыю. Так, карэспандэнту «НН» ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі райвыканкама супрацоўніца заявіла: «Я не спецыяліст. Званіце начальніку альбо ў ветлячэбніцу». Супрацоўнік раённай ветстанцыі паведаміў, што «не мае такой інфармацыі, у нас у раёне ўсё добра». Затое ў інтэрнэце яшчэ ў пятніцу з’явілася інфармацыя з спасылкай на мясцовых жыхароў, што ў вёсцы была выяўленая афрыканская чума свіней.

Маўчанне ўладаў прывяло да панічных настрояў сярод вяскоўцаў. Як паведамілі «НН» жыхары абодвух раёнаў, пачалі рэзаць свіней, не чакаючы гасцей з ветслужбы. Карціна была фантасмагарычная. Едзеш пад Навагрудкам — у кожнай вёсцы паляць кабаноў. Людзі ў разгубленасці — калі гэта былі вучэнні, то навошта было забіваць і спальваць свіней.

Ёсць у гэтай гісторыі яшчэ некалькі момантаў, якія выклікаюць пытанні. Па неафіцыйнай інфармацыі, супрацоўнікам аднаго са свінакомплексаў у Карэліцкім раёне пад пагрозай звальнення загадалі знішчыць уласных свіней. Нібыта, каб яны не прынеслі на комплекс інфекцыю.

Жыхары Нязнанава распаўсюджваюць чутку, што з восені ў аднаго з мясцовых фермераў сапраўды адбыўся паморак свіней, але гаспадар нікуды не звяртаўся, а свіней закапаў. І што, маўляў, калі аналізы пацвердзяць факт афрыканскай чумы, то, паводле нормаў, свіней прыйдзецца спаліць у радыусе 30 кіламетраў вакол.

Загадкавасці гісторыі дадае і той факт, што ў аўторак з Нязнанава міліцыянты выдалілі журналістаў, якія прыехалі рабіць рэпартаж. Ім заявілі, што на тэрыторыі, дзе праводзяцца вучэнні, журналістам знаходзіцца нельга. На пытанне, што за вучэнні і на якой тэрыторыі яны праходзяць, прагучаў адказ, што інфармацыя сакрэтная.

**Кастусь Матушыч, Сямён Печанка**



# Міліцыянта асудзілі за збіццё падначаленага

Праваабаронцам асуджаны **запомніўся сваёй жорсткасцю**.



Былы начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента аховы МУС Дзінас Лінкус атрымаў 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Гродзенскі раённы суд прызнаў яго вінаватым у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага часткай 3 артыкула 426 Крымінальнага кодэкса (злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі). Максімальнае пакаранне па гэтым артыкуле — дзесяць гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Былы супрацоўнік міліцыі абвінавачваўся ў збіцці свайго падначаленага — начальніка Шчучынскага раённага аддзела Дэпартамента аховы Аляксея Сяргея.

Здарэнне адбылося больш як паўгода таму.

Да пераводу ў Гродна Лінкус працаваў у Мінску, дзе меў дачыненне да затрыманняў актывістаў апазіцыі. Тады ён займаў пасаду намесніка начальніка Упраўлення ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна сталіцы — начальніка міліцыі грамадскай бяспекі. Так, 19 красавіка 2011 у Мінску на прыватнай кватэры былі затрыманыя праваабаронцы Валерый Шчукін, Павел Левінаў і журналісты Алег Баршчэўскі, Вольга Карач.

Іх даставілі ў РУУС Фрунзенскага раёна па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства — нібыта яны маюць дачыненне да выбуху ў мінскім метро. Судзілі, праўда, за дробнае хуліганства. Карач была аштрафаваная, а Баршчэўскаму і Левінаву далі суткі.

Андрэй Левінаў, брат Паўла, размаўляў з міліцэйскім начальнікам. Яго запрасілі да Лінкуса. Мужчына кажа, што міліцыянт не хаміў, але размаўляў здзекліва. Прыгразіў: магу сказаць, што Андрэй мацюкаўся. І тады пасадзяць і яго на суткі. А праз нейкі час у кабінет зайшоў і начальнік раённага ўпраўлення Алег Гайдукевіч.

«Ён адразу пачаў крычаць, што я тут рабіў. А Лінкус сказаў: «На дыван мачыўся». Я пытаюся: «А дзе тады плямы?» — «Зараз я памачуся і скажу, што гэта ты зрабіў». Я зразумеў, што чалавек неадэкватны і можа зрабіць што заўгодна», — прыгадаў Андрэй Левінаў. Дарэчы, ён таксама былы міліцыянт.

Вольга Карач таксама апісала сваю «сустрэчу» з Лінкусам падчас таго затрымання. «Мяне адцягнулі ад мужа ды пацягнулі проста па падлозе калідора ў іншы кабінет. У кабінет, куды мяне ўцягнулі, як віхура ўварваўся цёмнавалосы мужчына [Лінкус — «НН»], падляцеў да мяне і з размаху заляпіў мне па скроні, закрычаўшы, што будзе займацца са мной сэксам у нетрадыцыйнай форме з элементамі гвалту. Па-руску ён сказаў добра калі 10% сваёй палымянай прамовы, астатняе было адборнымі мацюкамі».

«Я магу яго ахарактарызаваць як дасведчанага кіраўніка, якому заўжды падам руку пры сустрэчы і падтрымаю як змагу. Што да яго віны ў дадзеным выпадку, то гэта вызначыць суд», — так за некалькі дзён да суда ў інтэрв’ю «Комсомольской правде в Белоруссіі» пракаментаваў асобу былога падначаленага Алег Гайдукевіч.

Да ўступлення прысуду ў сілу Лінкус будзе заставацца на волі, пад хатнім арыштам.

**Сяргей Макарэвіч**

# Міхалок: Новы альбом «Ляпісаў» будзе лютым

Ён будзе называцца **«Рабкор»**.

Лідар гурта Сяргей Міхалок кажа, што альбом будзе надзвычай актуальным: «Ляпісы» напішуць песні паводле самых гарачых падзеяў.

«Рабкор — гучыць як назва музычнага стылю, па аналогіі з хардкорам, скакорам, гэта такая музыка паўсталых рабоў, — адзначае музыка. — Новы альбом будзе самым лютым з усіх калі-небудзь зробленых гуртом «Ляпіс Трубяцкой».

З іншага боку, «Рабкор» — скарачэнне ад старога панятку «рабочы карэспандэнт». Мы будзем займацца музычнай журналістыкай. У сэнсе напісання песень-перадавіцаў па гарачых слядах падзей. А тое, што песні могуць хутка састарэць, мяне не хвалюе. Я мару пра тое, каб праз 5 ці 10 гадоў людзі наогул не разумелі, пра што мы спявалі ў 2012. Каб усе гэтыя праблемы зніклі», — кажа Міхалок.

Цяпер гурт знаходзіцца ў туры «Не быць скотам» па Расіі. Ці плануе Міхалок прыехаць у Беларусь, пасля таго як пракуратура вырашыла не заводзіць на яго крымінальную справу за антылукашэнкаўскія выказванні? «Наўрад ці ён будзе спявашчаць шырокую грамадскасць пра свой прыезд. Прынамсі, у Мінск на белым кані ўязджаць не будзе», — адказаў «НН» прэс-сакратар гурта Аляксандр Бергер.

ЮУ

**Музыка паўсталых рабоў »**



Музыка марыць, каб праз пяць гадоў яго песні не зразумелі.

## Мазынскі: «У цяперашніх рэжысёраў цэнзар у галаве»

20 лютага рэжысёр **адзначыў 65-годдзе**.

Выдатны рэжысёр Коласаўскага і «Вольнай сцэны» Валер Мазынскі праславіўся смелымі спектаклямі. Але ў 2006 апальнаму, арыштаванаму на плошчы Мазынскаму давялося «На дне» Горкага паставіць у камеры Акрэсціна. Як можа самарэалізавацца рэжысёр без тэатра? І які тэатр патрэбны сёння Беларусі?

«Вось ужо дванаццаць гадоў я выключаны з таго, чым займаўся ўсё жыццё — кажа Валер Мазынскі. — Засяродзіўся на стварэнні дакументальных фільмаў і аўдыёкніг. Мы запачаткавалі серыю «Голас паэта», амаль гатовыя дыскі Генадзя Бураўкіна і Янкі Маўра... Здымаю дакументальны фільм пра Палуту Бадунову, робім архіў па вязнях сумлення.

**«Наша Ніва»: На Вашу думку, чаго бракуе цяперашняму тэатру ў Беларусі?**

**Валер Мазынскі:** Ведаеце, чым сённяшні тэатр розніцца з савецкім? Тады мы насамрэч хацелі нешта данесці праз цэнзуру. А ў цяперашніх рэжысёраў гэты цэнзар у галаве.

Мне вельмі спадабалася заява Сяргея Міхалка і ідэя яго новага альбома з песнямі, якія будуць адпавядаць актуальным падзеям. Мастацтва мусіць гаварыць пра надзённае. Тэатр цяпер зусім не жыве з народам.

**«НН»: У 1990-я сітуацыя ў тэатры была іншай?**

**ВМ:** Гэта быў спецыфічны час. Перабудова, раптоўна стала можна ўсё і знік момант супраціву... Смешна гучыць, але дзякуючы Лукашэнку з'явілася патрэба ствараць. Праўда, ствараць не глыбіннае, а барыкаднае. Колькі тады з'явілася гістарычных п'ес! Цэлае пакаленне зацікавілася гісторыяй.

**«НН»: Калі б была прапанова, ці вярнуліся б Вы ў тэатр?**

**ВМ:** Усё адно выганяць праз два тыдні. Мне было б цікава, каб маладыя драматургі прынеслі мне свае творы, і мы маглі б з імі працаваць. Аднак менавіта з маладымі драматургамі.

Гутарыў Юрась Ускоў

**Валер Мазынскі**

нарадзіўся 20 лютага 1947 у вёсцы Вялікае Стахава (Барысаўскі раён). Тэатральны рэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Галоўны рэжысёр Коласаўскага тэатра ў Віцебску (1976—89). Стварыў у Мінску (1993) тэатр-лабараторыю беларускай драматургіі «Вольная сцэна». У 2000 Мазынскі быў звольнены. Заснаваў свой тэатр з такой самай назвай. Пасля знішчэння «Вольнай сцэны» Мазынскі працаваў вартаўніком, будаўніком і вахцёрам. Трапіў на суткі падчас Плошчы-2006. На Акрэсціна паставіў аматарскі спектакль «На дне». У 2008 зняў тэлефільм паводле «Тутэйшых» Янкі Купалы. У 2011 — дакументальную стужку «Як пошуг маланкі» пра дзеяча нацыянальна-вызвольнага руху 1950-х Расціслава Лапіцкага.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Сцісла

**«Звязду» зліваюць**

Галоўны рэдактар газеты «Звязда» Аляксандр Карлюкевіч прапануе аб'яднаць яе з холдынгам «Літаратура і мастацтва» ў адзін выдавецкі дом «Звязда». У структуру холдынга ўваходзяць газета «Літаратура і мастацтва», часопісы «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Вожык». Такое зліццё дзяржаўных газет робіцца з мэтай скарачэння выдаткаў, але не дадае выданням самастойнасці.

**Выйшла Біблія айца Чарняўскага**

Выдадзены пераклад Бібліі на беларускую мову, які зрабіў ксёндз з Вішнева Уладзіслаў Чарняўскі. Пераклад рабіўся з лаціны. Набыць Біблію можна ў Біблійным таварыстве (Мінск, Чыгладзэ, 19) і ў кнігарнях.

**«Залатога мядзведзя» атрымаў фільм з удзелам зняволеных**

Галоўны прыз Берлінскага кінафестывалю дастаўся карціне «Цэзар павінен памерці». Яго паставілі паводле п'есы Шэкспіра «Юлій Цэзар». П'есу ў фільме разыгрываюць вязні рымскай турмы строгага рэжыму.

СМ

**In memoriam**

## Тодар Копша

З жыцця пайшоў слынны мастак, культурны герой авангарду1970—80-х, дысідэнт. «Копша» ў народнай міфалогіі — магільны дух. Гэткае імя прыдумаў для сябра паэт і філосаф Алесь Разанаў.

Ягонае сапраўднае імя было Фёдар Кацапаў. Ён нарадзіўся ў 1939 у Слаўгарадзе, старажытным Прапойску. У Мінску, скончыўшы мастацкае вучылішча імя Глебава, стаў прафесійным мастаком. Але ўсё сваё жыццё дзейнічаў і ствараў па-за межамі афіцыйнага Саюза. Мастак з маладосці быў прынцыповым нонканфармістам. Копша браў удзел спачатку ў хатніх, прыватных, а потым — у адкрытых авангардных выставах. Ён займаўся станковым калажом, быў адным з пачынальнікаў гэтага жанру ў Беларусі.

У духу кубізму 1920-30-х ён стварыў бел-чырвона-белую «Піраміду», што ўспрымаецца як алюзія на лёс БНР. Сам мастак казаў, што яго цікавіць не палітыка, а філасофія: «Філасофія — гэта нават не жыццё, гэта ўжо нешта вышэйшае за жыццё».

Хоць мастак і ўнікаў найпростаых гістарычных алюзіяў, яго палотны «Паэты 37-га года», «Пераход у зону «Х» апелююць да нашага гістарычнага досведу. А некаторыя ўспрымаюцца палітычна актуальнымі, як кампазіцыя «Пеўні», створаная Копшам як сатыра на лідараў апазіцыі. Прататыпамі персанажаў твораў Копшы, аднак, сталі не канкрэтныя асобы, а само грамадства і людзі як яго складнікі.

Ён ліставаўся з беларускімі незалежнымі перыёдыкамі, друкаваўся ў «Нашай Ніве» ў 1990-я. Тодар Копша пісаў таксама вершы, па назве аднаго з якіх атрымала імя рубрыка ў часопісе «Крыніца» — «Я маю твор».

У апошнія дзесяцігоддзі мастак-філосаф цяжка хварэў і вёў хатні лад жыцця, амаль не выбіраўся з кватэры на ўскрайку сталіцы. Тым часам яго выстаўлялі ў розных галерэях свету. У Мінску ён здолеў выставіцца толькі ў «Шостай лініі», «Добрых мыслях» ды на сядзібе БНФ. Па горкай іроніі лёсу ўсіх гэтых арт-пляцовак у Мінску больш няма. Няма твораў Копшы і ў дзяржаўных музеях. Ён так і не дачакаўся здзяйснення сваёй мары — выдання каталогу уласных твораў. Сёння ж творы мэтра андэграўнду знаходзяцца ў прыватных зборах у Германіі, Швейцарыі, Нарвегіі, Японіі ды Ізраіля.



Мо недзе там, за небакраем, і выйдзе альбом ягоных твораў... А родная зямля хай стане пухам мастаку, мысляру, патрыёту.

Сяргей Харэўскі

# Беларуская глыбіня. **Цуды на балоце**

Піша **Павел Севярынец.**

*Я зараз у глыбокай багне,*
*і няма на чым стаяць...*
*Псальма 68:3*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

«Пабываў у Альшанах — і, ведаеш, нарэшце ўбачыў, якая яна, новая Беларусь, — Андрэй Кім захоплены. — Усе вернікі, сем'і па сем-дзесяць дзяцей, гаспадаркі ў кожнага, катэджы, па некалькі машынаў!..»

Не, гэта не легендарныя Гальшаны, гняздо княскага роду, дзе караткевічаў Чорны замак. Альшаны — вялікая пратэстанцкая вёска на Століншчыне, дае ільвіную долю вытворчасці ды экспарту беларускай гароднiны.

А сам Кім — евангельскі хрысціянін з царквы «Ян Прадвеснік», як і лідары «Маладога Фронту» Зміцер Дашкевіч, Зміцер Хведарук, Наста Палажанка, кіраўнік КХП-БНФ у Беларусі Юрась Беленькі, хадэкі Дзяніс Садоўскі і Аляксей Шэін ды вядоўцы «Ліцвінскага клуба».

Агулам евангельскія хрысціяне Берасцейшчыны — яшчэ адзін відавочны цуд беларускай глыбіні. Найбольшая колькасць баптысцкіх і пяцідзясятніцкіх грамадаў — на Берасцейшчыне. Большасць правадыроў беларускага пратэстанцкага руху — з гэтых балоцістых мясцінаў. У 1995 нікому яшчэ невядомы Паша Знавец, які са сваім дзядзькам-вернікам аб'ехаў усе евангельскія грамады адной з тутэйшых выбарчых акругаў, у выніку масавага галасавання хрысціянаў (мясцовыя ўлады былі ў шоку) абраўся ў апошні беларускі парламент ужо ў першым туры.

Яшчэ паўтысячы гадоў таму менавіта з Берасцейшчыны, дзе ваяводамі былі канцлеры ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны і Астафі Валовіч, пачалася беларуская Рэфармацыя: магнаты, шляхта і частка месцічаў перайшлі ў кальвінізм, і хутка хрысціянскае абуджэнне ахапіла і Касцёл, і Царкву. Менавіта тут Чорны заснаваў першы ў Беларусі евангельскі збор, за свае грошы выдаў шыкоўную «Біблію» для Полыччы і распачаў нотадрукаванне канцыялам «Песні хвал Боскіх».

Чаму не сталічная Віленшчына і не цэнтральны Мінск, а тутэйшая дрыгавіцкая дрыгва дала найбольшы ўраджай пратэстантызму?

У 1910—1930-х у Заходняй Беларусі якраз тут, дзякуючы сябру Рады БНР Лукашу Дзёкуць-Малею, «Амерыканцам» (беларускім місіянерам, што вярнуліся з-за акіяна, такім, як Іосіф Пухоўскі, Даніла Комса) ды беларускаму паэту, прэсвітару Данілу Ясько, паўстала найвялікшая евангельская царква ва Усходняй Еўропе. Адзін толькі Дзёкуць-Малей, яшчэ ў 1913 арыштоўваны ў Лыскаве Пружанскага павета за евангельскую казань, пераклаў на беларускую 17 хрысціянскіх брашураў і ў 1931 разам з Антонам Луцкевічам выдаў «Новы Запавет і Псальмы».

Менавіта выданнем Дзёкуць-Малея карыстаўся вялікі евангельскі пастыр Эрнст Сабіла (які, дарэчы, 18 сакавіка адзначыць 80-годдзе). У 1951, асуджаны пасля 2 месяцаў «амерыканкі» да расстрэлу за «антысавецкую агітацыю», абцяжараную нацыянальнымі і рэлігійнымі забабонамі, ён адсядзеў 13 гадоў — і да цяпер каржакаваты, магутны, цягае цэглу для будаўніцтва агромністага дома малітвы ў Асіповічах. Нетаропкі, грунтоўны, але гучны, Эрнст Канстанцінавіч расказвае пра ўцёкі з лагера — і кожнае слова бы тую цаглiну кладзе:

«Бягу. Сілаў няма. Снег. Страляюць. Толькі кулі ўвушшу — жыг! жыг!.. Аніводная не кранула. Госпад даў выжыць. Думаю, дзеля чаго? Для таго, дзеткі, каб зараз я мог вам распавесці, як было там».

Глядзіш у ягоныя глыбокія беларускія вочы — і наварочваюцца слёзы.

Пратэстанты — простыя, таму людзі і цягнуцца. Але большасць беларусаў баіцца. І прычына тут не ў сімвале веры ці тэксце Святога Пісьма (яны аднолькавыя з праваслаўнымі). Проста сённяшні беларус баіцца жыць па-Божаму. Ну як гэта... Не піць, не паліць, не блудзіць, не хлусіць... Гэта што яшчэ за секта?!.

Ды вось пытанне: куды падзелася беларускасць калісьці прынцыпова беларускамоўных пратэстантаў? Пратэстантызм разлічвае прывабіць тутэйшага расейскамоўнасцю — і не заўважае, што гэта насамрэч пазбаўляе вернікаў цвёрдай глебы пад нагамі. Стаць царквой нацыянальнага маштабу перашкаджае якраз недахоп цэласнага погляду на беларускую ідэю як сутнасна хрысціянскую, а на саму Беларусь — як на Радзіму, дадзеную Богам.

Разумеючы гэта, у свой час пастары той самай фенаменальнай евангельскай грамады «Ян Прадвеснік» (якія калісьці, абвінавачаныя ў харызматы, выйшлі з касцёла Святога Роха, але захавалі беларускі характар) правялі на Палессі грандыёзную працу, спрабуючы давесці беларускім пратэстантам: вашыя карані — у Залатым веку Рэфармацыі XVI ст. Кніга Якава Радзевіча «Залаты век Беларусі», фільм Аляксея Шэіна «Забаронены Хрыстос» і беларуская прэзентацыі пасля набажэнстваў на пратэстанцкай Берасцейшчыне і зараз урабляюць тую ўрадлівую, але па-балотнаму заглыбленую спадчыну Мікалая Радзівіла Чорнага, Дзёкуць-Малея і Эрнста Сабілы. Ці не адсюль — нядаўні звар'яцелы штурм «Ліцвінскага клуба»?

У Беларусі з'яўленне пратэстанцкай грамады — найлепшы спосаб каталізаваць каталікоў і паправіць праваслаўных: духоўнае жыццё ў горадзе ці мястэчку адразу пачынае віраваць. У трох формах хрысціянскага вучэння для ўсіх характараў і тэмпераментаў выяўляецца і свабода выбару, і ачышчальная канкурэнцыя, і ўзаемадапаўняльная поўная — уся непаўторная ў сваім адзінстве і барацьбе супярэчнасцяў — беларуская тройца.

Мара беларускіх пратэстантаў вось ужо пяцьсот гадоў тая ж — выцягнуць беларусаў з балота. Цёплага, роднага балота штодзённасці, набрынялага асабістымі паразамі ды набытымі звычкамі. Але, папярэджвае Евангелле, чалавеку гэта немагчыма...

Так што зусім не пратэстанты гэта.

З глыбіні Залатога веку, пахаванага пад сатлелымі тоўшчамі, забалочанага ў нашых сэрцах, затопленага ў дрыгве, цягне беларусаў, выцягвае, каб не захлынуліся, не дагнілі дарэшты, Сам Госпад Бог.

*Куплін*

**Ну як гэта… Не піць, не паліць, не блудзіць, не хлусіць…** »

**Водгук**

# «Можа хопіць займацца дэмагогіяй?»

Можа хопіць у духу савецкай прапаганды **заклікаць апазіцыю** да «дзейнасці»?



PHOTO.BYMEDIA.NET

Калумніст «Нашай Нівы» Сяргей Ваганаў кінуў камень у лідараў партапазіцыі і прафсаюзных босаў (**«НН» №5**). Ягоны артыкул выклікаў жывую дыскусію на сайце. Вось што піша яму чытач Корзун.

«Спадар Ваганаў! Можа хопіць займацца балбатнёй і дэмагогіяй? Можа хопіць у духу савецкай прапаганды заклікаць апазіцыю да «дзейнасці і цяжкой працы з людзьмі»?

Вось вы самі пайдзіце да прахадной Трактарнага ці МАЗа і пачніце заклікаць да страйка ці стварэння стачкама. Вас адразу возьмуць адпаведныя «органы», і гэтым усё скончыцца. І вы гэта ведаеце. Таксама як ведаеце, што не хочуць рабочыя ўдзельнічаць у аніякіх страйках ці стачкамах, што народ у Беларусі не хоча, не гатовы да ўдзелу ў сапраўдных зменах сацыяльна-палітычных.

У Польшчы такія змены адбыліся не таму, што з'явіўся геніяльны электрык Валенса, а таму, што грамадства, нацыя была адпаведным чынам настроеная.

Жаданне змен у Польшчы вырасла не з нейкіх намаганняў апазіцыі, а знутры, з самой ментальнасці палякаў. Апазіцыя ўжо толькі «афарміла» гэты настрой. А наша кволая апазіцыя толькі частка кволага, няшчаснага, забітага беларускага грамадства.

Прабачце, але вашы заклікі да ўсё той жа «дзейнасці і цяжкой працы» з масамі ідуць проста таму, што Вам проста трэба штосьці пісаць, а «НН» друкаваць, вось і пішаце гэтую балбатню і дэмагогію — «не ў стане спалучыць» і г.д. Вось вы разам з «НН» і «спалучыце», пакажыце, як гэта робіцца.

Акурат такая пазіцыя — гэта прывід журналістыкі. Апазіцыя усё ж такі сядзіць у турмах, іх лупяць і арыштоўваюць, у той час як вы седзіце на ўтульнай кватэры і заклікаеце да «працы з людзьмі». Пісаць дэмагагічную лухту — апошняя справа».

**Корзун, праз nn.by**

**Трохі лірыкі**

## Не суддзя, не пракурор, не адвакат

Ідзе за ўладу бітва, а не за народ.
Прынамсі, іншага з правіцелі
не бачу.
Прамовы шчодра раздае
вялікі сход:
Высокі пафас і эфектная падача!..

Гляджу на звады
палітычнай мітусні,
Але няма патрыятычнага адчаю:
Хай псеўдаволаты
шпурляюць камяні,
Хай забіваюцца —
пярэчанняў не маю…

Хай псеўда-Бацькі
заклікаюць у паход —
«За Беларусь! За родны край —
багаты, вольны!»
Ідзе за ўладу бітва, а не за народ.
І колькасць выскачак расце —
расце няўмольна…

…Адны забралі, што хацелі і маглі,
Другія брэшуць,
не жадаючы змірыцца.
А на грашах і на чале —
найбольш нулі…
А годнай справе найчасцей —
калом у спіцы…

Дабро пад ногі!
Сеюць цемру і разлад
Паганцы з подлай і
разбэшчанай натурай.
Я не суддзя, не пракурор,
не адвакат,
Але не здраднік, не зайздроснік
і не дурань…

**Рыгор Шэрда**

# Сакрэтныя агенты Сенька і Паўлік

ГРУ і НКВД у Другую сусветную, дыверсанты Ваўпшасава ў 1920—30-я — гэта тое, што згадваецца, калі гаворка заходзіць пра **расійскую выведку на беларускай зямлі**. Каранямі ж з'ява сягае ў XVII стагоддзе.

Звесткі пра першых маскоўскіх шпегаў захавалі «веставыя стаўбцы», дакументы Разраднага прыказу — ваеннага ведамства Маскоўскай дзяржавы, якое займалася і зборам інфармацыі пра становішча на межах.

У передваенныя 1652—54 у дакументах прыказу нашмат больш данясенняў з літоўскай мяжы — аб руху войскаў, дзеях камандуючых, канцэнтрацыі сіл і ўзбраення. У папярэднія гады болей увагі вайсковая выведка надавала «татарскай» ды «чаркаскай» тэматыцы. («Чаркасамі» ў тыя часы называлі ўкраінскіх казакоў).

Паводле ўмоваў Дэўлінскага перамір'я 1618 да Рэчы Паспалітай адышлі землі з пераважна праваслаўным насельніцтвам — смаленскія, чарнігаўскія, ноўгарад-северскія. Паміж жыхарамі падзеленых мяжой мясцовасцяў захоўваліся сваяцкія і гаспадарчыя сувязі. Гэта рабіла іх магчымымі агентамі выведкі аднаго з бакоў. Спрыяла і недасканалая ахова мяжы ў тыя часы.

### Першыя шпегі — казакі

У 1652 г. войска Рэчы Паспалітай церпіць буйныя паразы ад паўстанцаў Хмяльніцкага пад Батогам і Жванцом. У Маскве, дазнаўшыся пра гэта, мэтаскіравана пачынаюць рыхтавацца да вайны. Актывізуецца і выведка.

2 жніўня 1652 белгарадскі ваявода Емяльян Бутурлін па царскім даручэнні паслаў «у казачыя гарады чаркасаў Сеньку Маленькага ды Паўліка Калініікава ...для праведвання звестак за рубяжом, у польскай старане, у казачых гарадах... у Вепрыку ды ў Гадзячы». Але сакрэтных агентаў Сеньку і Паўліка ў тых гарадах спынілі, забараніўшы рухацца як далей, так і назад: «у многіх месцах мор вялікі... пастаўленыя заставы моцныя... пускаць нікога не дазволена». Праўда, з адпіскі вольнаўскага ваяводы Пляшчэева ад 2 верасня мы даведваемся, што «моравай пошасці няма», а чутку пусцілі казацкія атаманы, баючыся прыходу маскоўскага ваяводы Грыгорыя Куракіна з войскам, які мог спустошыць акругу.

А можа, атаманы хацелі перашкодзіць дзейнасці замежнай выведкі на сваёй тэрыторыі (Украіна ў 1652 яшчэ не была звязаная дамоўленасцямі з Масковіяй).



**«Невядомая вайна» 1654-1667**

Вайна Маскоўскай дзяржавы і Рэчы Паспалітай. Мела катастрафічныя наступствы для Беларусі. У выніку наш край страціў палову насельніцтва беларускіх земляў, былі зруйнаваныя гарады, многія (як Магілёў, Быхаў) так і не аднавілі свайго былога значэння. Скончылася Андрусаўскім перамір'ем, згодна з якім Смаленская, Чарнігаўская і Ноўгарад-Северская землі заставаліся ў складзе Маскоўскай дзяржавы, а захопленае беларускае Падзвінне вярталася ВКЛ. Адыходзіла Масковіі і левабярэжная Украіна. Вывезены з ВКЛ падчас вайны шматтысячны палон звароту не падлягаў.

### «Літоўская пагроза»

Трывалай мэтай маскоўскай выведкі ад 1648 г. заставаўся збор інфармацыі аб ходзе паўстання Хмяльніцкага на Украіне. Поспехі ці паразы паўстанцаў уплывалі на палітыку Расіі ў дачыненні да Рэчы Паспалітай. Асабліва цікавілі маскоўскае кіраўніцтва адносіны казацкіх вярхоў з шараговым казацтвам (на якое і была зробленая стаўка ў будучым «інтэграцыйным працэсе»).

8 снежня 1652 казакі ніжынскага палкоўніка Івана Залатарэнкі схапілі языка, «і той паляк казаў, што палякі і літва па першым зімовым шляху збіраюцца пад Новагародак-Северскі вайною». Хоць «палякі і літва» збіраліся дзейнічаць супраць Залатарэнкі, пасля гэтага выпадку з восені 1653 г. тэма «літоўскай пагрозы» пачынае ўсё часцей з'яўляцца ў дакументах прыказу.

22 верасня «бранскі пасадскі чалавек» Міцька Сапронаў даносіў ваяводу Грыгорыю Далгарукаму, што ў Смаленск прыйшлі «літоўскія людзі». У кастрычніку 1653 таропецкі ваявода Сцяпан Вельямінаў паведамляў, што «ад літоўскіх людзей будзе з маскоўскімі людзьмі вайна... і лісты па гарадах і па мястэчках паўсюль папрыбіваныя».

Ужо ў студзені 1654 Далгарукі атрымаў звесткі аб месцы планаваных удараў літоўскага войска: «хочуць прыходзіць літоўскія людзі на Бранскі і на Серпейскі ўезд». Тэма «пагрозы» ўсё часцей прасочваецца ў далейшых адпісках за 1654. Множыліся і выпадкі затрымання «падазроных» на мяжы.

### На капітанскіх акладах

Як рэкрутаваліся і дзейнічалі «лазутчыкі»? Бо тут ужо мы маем справу з «лазутчыкамі» — людзьмі, якія спецыяльна пасылаліся з мэтай збору інфармацыі. Найбольш поўна апісаныя метады адбору шпегаў у адпісцы яблонаўскага ваяводы Рыгора Куракіна за верасень 1652. Цар патрабуе ўзяць «з Корачы, і з Белгарада, і з Царова, з Усерда

**За месячны аклад маскоўскі шпег мог купіць сем коней »**

па добрым чалавеку з чаркасаў, каб іх паслаць у Літоўскую старану». Такім чынам, назіраць за ходам паўстання на Украіне бяруцца людзі з чатырох розных гарадоў — «добрыя і знаючыя». Гэта «чаркасы» — людзі, якія будуць сваімі на гэтай тэрыторыі (па такім жа прынцыпе ў «лазутчыкі» бралі праваслаўных манахаў і сялян). Шпегаў яшчэ трэба «дапрошаць» — г.зн. праверыць іх добранадзейнасць і даць пэўную задачу.

Далей даецца інструкцыя, што шпегаў трэба адпускаць у Літву па адным і не адначасова, каб яны не ведалі адзін аднаго і ніхто староннi пра іх не ведаў. Тады, у выпадку правалу аднаго з іх, шкода агульнай справе будзе мінімальнай. (Нават пад катаваннем шпег не выдасць іншых, бо ён іх проста не ведае). Шпегам загадана быць «у Літоўскай старане» працяглы час, каб здабываць больш дакладныя і поўныя звесткі, удакладняючы інфармацыю з розных крыніц. «Калі ж у Літоўскай старане дазнаюцца, што яны прыехалі з нашай стараны праведваць звестак, яны хай кажуць, што яны, не хочучы быць у нашай старане, ад'ехалі ў Літоўскую старану служыць». Яскрава бачны зародак «легенды» выведніка, якой ён будзе карыстацца ў выпадку правалу.

Добры шпег заўсёды карыстаецца добрым забеспячэннем. Шпегам, якіх пасылаў Куракін, загадана было даць «жалавання рублёў па 6 і па 7, а самым добрым, ад якіх знаеце ўсякага дабра і службы, па 8 рублёў». Таксама, калі ў шпегаў былі слабыя коні, загадана даць кожнаму па драгунскім кані.

Невядома дакладна, на які тэрмін лазутчыкам выдаткоўваліся такія грошы. Тым не менш, гэта была даволі вялікая сума. Параўнаем: шараговы замежны дваранін-наёмнік на службе ў маскоўскім войску атрымліваў 1,05 рубля ў месяц, прапаршчык — 1,50, капітан — 7 рублёў. Рубель тады складаў ля 100 капеек, за 100 капеек можна было купіць добрага каня.

Грошай было дастаткова на доўгатэрміновую дзейнасць за мяжой. Тое, што «добрым лазутчыкам» плацілі болей, сведчыць пра крокі да прафесіяналізацыі выведкі. Думалі таксама і пра забеспячэнне шпегаў неабходным рыштункам.

Колькі такіх шпегаў было ў кожнага ваяводы — невядома, але іх дзейнасць напэўна была адным са складнікаў паспяховасці ваенных кампаній маскоўскіх войскаў 1654—55. Бо не толькі колькасная перавага, але і добра спланаваныя аперацыі маскоўскага кіраўніцтва па захопе стратэгічных аб'ектаў на ўсходзе ВКЛ сталі прычынай ваеннай катастрофы Рэчы Паспалітай у 1654—55. Яе вынікам стала знішчэнне паловы насельніцтва беларускіх земляў і іх гаспадарчы заняпад.

**Піліп Падбярозкін**

## Кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

### Асоба і час. Біяграфічны альманах. Выпуск 4. — Мінск: «Лімарыус», 2011

Чацвёрты выпуск беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час» за 2011 убачыў свет толькі ў студзені 2012. І не таму, што выдавецтва «Лімарыус» лічыла варон, а таму, што прамоўтар выдання Аляксандр Фядута пачатак 2011 правёў у «амерыканцы».

Героем новага выпуску назавем маладога даследчыка Ціхана Чарнякевіча, чые публікацыі занялі два асобныя раздзелы: «Калектыўнае» і «Радаводнае дрэва». У першым ён знаёміць чытачоў з аўтабіяграфіяй Восіпа Воўк-Левановіча і паказвае, як у беларускай лінгвістыцы 1920-х ішла барацьба групаў Воўк-Левановіча і Язэпа Лёсіка.

Някепска ў выпуску прадстаўленая паланістыка (публікацыя Дзмітрыя Матвейчыка «Уладзіслаў Плятэр і Адам Міцкевіч: Гісторыя адной эміграцкай сваркі») і русістыка (артыкулы і публікацыі Аляксандра Фядуты, Дзмітрыя Матвейчыка, Аксаны Кіянскай ды Сямёна Букчына). Але найбольш публікацый прысвечана далёкай і блізкай гісторыі Беларусі.

Міхась Чарняўскі прадстаўляе нам валожынскага хлопца Мікалая Махнача, якога перад вайной прымусам вывезлі на лесараспрацоўкі ў Карэла-Фінскую ССР. Скарыстаўшыся з моманту, Мікалай уступіў у армію генерала Андэрса, прайшоў з ёю баявы шлях і ўрэшце апынуўся ў ЗША.

Лявон Юрэвіч друкуе тэкст заходняруса Ф. Серна-Салаўевіча пра ягонага продка — слуцкага праваслаўнага святара, які трапіў у варшаўскую вязніцу і быў вызвалены адтуль царыцаю Кацярынаю II. Верны сваёй тэме, Сяргей Шапран друкуе лісты афіцэра Васіля Быкава да родных, а таксама гутаркі пра пісьменніка з Нілам Гілевічам і кінарэжысёрам Леанідам Мартынюком. Верны сваёй тэме і Міхась Скобла. Гэтым разам ён змясціў у альманаху лісты Ларысы Геніюш да Зоські Верас.

**СА**

### Санько Зміцер. Асобы, якія тварылі гісторыю. — Вільня: «Наша будучыня», 2011.

На 16 старонках кнігі аўтар, кіраўнік незалежнага выдавецтва «Тэхналогія», сцісла пераказвае гісторыю краіны за тысячу гадоў. Акцэнт робіцца на асобах, якія гэтую гісторыю стваралі, — ад Рагвалода да Пазняка. Сам спадар Санько ацэньвае сваю кнігу як «лікбез» для шырокіх масаў.

### Беларускі гістарычны агляд. Том 18. — Вільня: ЕГУ, 2012.

Новы выпуск «Беларускага гістарычнага агляду» адкрываецца артыкулам польскага гісторыка і былога пасла Польшчы ў Беларусі Генрыка Літвіна, прысвечаным сувязям эліты ВКЛ з Кіеўшчынай у XVI—XVII стст. Рэдактар «БГА» Генадзь Сагановіч працягвае даследаванне акалічнасцяў невядомых войнаў у беларускай гісторыі. Гэтым разам ён піша пра вайну на полацка-віцебскім рубяжы ў 1632—1633 гг. і «паўстанне» ў Полацку ў той час.

Пра БССР узору 1989-га, пабачаную вачыма замежніка, расказвае нямецкі гісторык Аляксандр Фрыдман у публікацыі «Кітайскія красоўкі для працоўных мінскага завода халадзільнікаў».

А сарцавінай 450-старонкавага тома з'яўляюцца мемуары народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «Дзевяноста трэці год».

**СМ**

### ARCHE Пачатак. № 12. — 2011

Чарговы нумар часопіса ARCHE прысвечаны жанчынам у беларускай гісторыі. Беларуская жанчына даследуецца ад XVI стагоддзя да нашых дзён. Гэта шляхцянкі на старонках прыватна-прававых і судовых дакументаў ВКЛ (Наталля Сліж) і жанчыны ў паўстанні 1863—1864 (Алена Фірыновіч), «бабскія бунты» ў БССР (Ірына Раманава) і жаночае ў светапоглядзе беларусаў (Таццяна Валодзіна). Уклала нумар гісторык Наталля Сліж.

Замовіць часопіс можна праз dastauka@arche.by.

**КМ**

# Масленіца ў Дудутках



**25 лютага а 12-й Дудуткі запрашаюць** на Масленіцу. Гасцей чакаюць жывая музыка і танцы, стральба з лука, падарункі на масленічным слупе, катанне на конях і санях, рамесніцкія майстэрні…

PHOTO BYMEDIA.NET

## ІМПРЭЗЫ

### Вечар шведскага дэтэктыва

**28 лютага ў 18.30 у кнігарні «логвінаЎ» (пр.Незалежнасці 37а)** — вечар шведскага дэтэктыва. Адбудзецца паказ фільма паводле рамана Стыга Ларсана і абмеркаванне феномена шведскага дэтэктыва. Вядучы — Максім Жбанкоў.

## КАНЦЭРТЫ

### Канцэрт фартэпіяннай музыкі

**26 лютага а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** выступае піяністка Інгрыд Фудзіка Хемінг. У праграме І.С.Бах, Ф.Шапэн, Ф.Ліст, М.Мусаргскі.

### Квінтэт Томэка Грохата

**2 сакавіка а 19-й на сцэне Белдзяржфілармоніі** — квінтэт Томэка Грохата Tomek Grochot Quintet.

### Полацкі сшытак

**2 сакавіка а 19-й у Палацы культуры ветэранаў (Я.Купалы, 21)** — гурт сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса» з праграмай «Полацкі сшытак і гераічны эпас Вялікага княства».

### Тузін. Unplugged

**24 лютага а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — Тузін. Unplugged. Бяруць удзел ZM99, Znich.

### Аліна Арлова

**25 лютага а 19-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — Аліна Арлова.

### PANaNieba

**23 лютага а 19-й у клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** пройдзе прэзентацыя новага альбома гурта PANaNieba «71».

### Князь Мышкін

**27 лютага а 18-й «Арт-Сядзібе» (Куйбышава 22, гандлёвы дом «Гарызонт», другі паверх)** адбудзецца вялікі сольны канцэрт групы інтуітыўнай імправізацыі «Князь Мышкін».

### За дзень да вясны

**29 лютага а 19-й у клубе «Салтайм» (пр.Незалежнасці, 131/1)** выступае гурт «Верасень» з праграмай «За дзень да вясны».

### Дабрачынны канцэрт

**29 лютага а 19-й у Маладзёжным тэатры эстрады (Маскоўская, 18)** — дабрачынны канцэрт, мэта якога звярнуць увагу ўладаў і грамадства на праблемы дзяцей, хворых на невылечвальныя генетычныя захворванні.

## ВЫСТАВЫ

### Валенці Ванькові: «Партрэт Войцаха Пуслоўскага»

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** экспануецца партрэт Вой-цаха Пуслоўскага пэндзля Валенція Ванькові. Гэты твор В.Ванькові ўпершыню экспануецца ў Беларусі.

### Слуцкія паясы

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі** экспануюцца чатыры слуцкія паясы са зборак Нацыянальнага мастацкага музея Літвы ў Вільні.

### Спадчына

**Да 4 сакавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава твораў са шкла мастачкі Тацціны Малышавай. На выставе прадстаўленыя кампазіцыйныя працы са шкла, выкананыя ў разнастайных тэхніках. Творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дапоўненыя дакументальнымі фотаздымкамі.

### Каліграфія

**У галерэі «Мабільная» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 3 сакавіка** працуе выстава каліграфіі Лі Цзо (Кітай).

### Дрэва жаданняў

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 4 сакавіка** працуе выстава твораў Ганны Сілівончык «Дрэва жаданняў». Работы, прадстаўленыя на выставе, — спроба паказаць парадаксальныя і неадназначныя праявы кахання.

### Прасторы вольныя зямлі

**Да 27 лютага ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Прасторы вольныя зямлі» (беларускі пейзаж 1950-2000-х), на якой прадстаўлена каля 80 жывапісных твораў беларускіх мастакоў, выкананых у жанры пейзажу.

### Мацэвы штодзённага ўжытку

**У Гістарычным музеі да 23 лютага** працуе фотавыстава Лукаша Баксіка «Мацэвы штодзённага ўжытку». У праекце «Мацэвы штодзённага ўжытку» фатограф даследуе лёс яўрэйскіх надмагілляў (мацэваў) пасля Другой сусветнай вайны, фіксуе шматлікія выпадкі выкарыстання яўрэйскіх надмагілляў як будаўнічага матэрыялу.

## ТЭАТРЫ

### 23 лютага

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Оперы і балета** — «Хаваншчына»
Купалаўскі — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»

### 24 лютага

**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 25 лютага

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Пiпi-Доўгаяпанчоха»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 26 лютага

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»

### 27 лютага

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»

### 28 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»

### 29 лютага

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Зіма»
**Беларускай драматургіі** — «Яго апошняе каханне (Лета)»

### 1 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 2 сакавіка

**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 3 сакавіка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»

## КІНО

### Вяртанне нямога голасу

**Артыст (The Artist)**
Францыя — Бельгія, 2011, чорна-белы, нямы, 100 хв.
**Рэжысёр:** Мішэль Хазанавічус
**Ролі выконваюць:** Жан Дзюжардэн, Берэніс Бежо, Джон Гудмэн, Джэймс Кромуэл, Пенелопа Эн Мілер, Малькольм МакДаўэл
**Жанр:** Атмасферычна-стылізаваная меладрама
**Адзнака:** 7,5 (з 10)

Зорка нямых фільмаў Джон Валентайн у гукавым кіно застаўся без працы. Ягоная прыхільніца, наадварот, робіць імклівую кар'еру. Героі ўпотайкі кахаюць адно аднаго, але абое сцятыя бязгучнасцю. Пасля сыходу нямога кінематографа неаднойчы рабіліся спробы вярнуць на экраны яго магію. Прыхільнікі Лаўкрафта ажыўлялі Ктулху ў чорна-белых кашмарах, а пясняр фінскіх алкаголікаў Акі Каўрысмякі забаўляўся рэалістычнай меладрамай пад класіку.
Але ўсе гэтыя спробы не выходзілі за межы эксперыментаў для вузкай аўдыторыі. З «Артыстам», які прэтэндуе на 10 «Оскараў», усё інакш. І справа не толькі ў майстэрстве рэжысёра Хазанавічуса, які сентыментальна-стрымана ўвасобіў на экране міф пра нямую эпоху. І не толькі праўда пачуццяў вельмі чалавечай гісторыі вабіць аўдыторыю. Зрэшты, карціна, якая прыкідваецца нямой, мае колькі эфектных гукавых момантаў. Стужка ідзе ў Мінску

**Андрэй Расінскі**






### Разбітае сэрца пацана

**24 лютага а 19-й у клубе Re:public** — канцэрт гурта «Разбітае сэрца пацана».

# Колькі дранікаў можна беларусам?

**Як пахудзець** без шкоды для здароўя.

Як правільна харчавацца і якія прадукты можна лічыць карыснымі для арганізма? Чаму адныя таўсцеюць ад булачкі, а іншыя не прыбаўляюць ні кілаграма ад смажанай бульбы з салам? Пра гэта «Нашай Ніве» расказала доктар-дыетолаг Ларыса Барысевіч.



У беларускім рацыёне шмат каларыйных страваў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Еш часцей, каб не паўнець

Самае галоўнае ў здаровым харчаванні — выконваць рэжым прыёму ежы. Навукоўцамі даказана: больш схільныя да паўнаты тыя, што харчуюцца 1-2 разы ў дзень. Есці трэба як мінімум 3 разы на дзень: павінны быць сняданак, абед і вячэра.

Калі чалавек рэдка харчуецца, арганізм падае сігнал у мозг, што яму не стае энергіі. Арганізм пачынае «эканоміць» энергію: менш выдаткоўвае і больш адкладае ў тлушчы (бо раптам наступны раз зноў не пакорміш). Атрымліваецца своеасаблівае замкнёнае кола: ясі мала, а вага не меншае.

Яшчэ адзін вораг здаровага харчавання — «перакусы» бутэрбродамі, булкамі ды шакаладкамі. Калі падлічыць калорыі ад такой ежы, атрымаецца больш, чым калі б чалавек меў паўнавартасны сняданак, абед і вячэру.

### На працу прынось «ссабойку», а вячэру аддай ворагу

На думку дыетолага, пасля 18.00 есці можна. Але пажадана, каб апошні прыём ежы адбываўся за 3 гадзіны да сну.

Што атрымліваецца ў рэальнасці? Раніцай няма часу паесці. Удзень мы знаходзімся на працы і падсілкоўваемся булкамі з чаем. А асноўны прыём ежы прыходзіцца на вячэру. Тым часам абменныя прасэцы (працэсы метабалізму) бліжэй да вечара зніжаюцца, зніжаецца і ступень актыўнасці. Тое, што мы паелі на ноч, адкладаецца ў тлушч.

Таму калі вы сапраўды дбаеце пра здароўе, прымушайце сябе раней уставаць, гатаваць сняданак і «ссабойку» на працу. А вечарам — наадварот, не пераядайце. Думаеце, не справіцеся? Са слоў дыетолага, пасля тыдня «правільнага» харчавання яе кліенты заўважаюць, што вечарам есці не надта хочацца.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Вораг здаровага харчавання — «перакусы» бутэрбродамі.**

### Што мы ямо?

Харчаванне павінна быць збалансаваным. Каб падтрымліваць сябе ў форме, у арганізм у правільных суадносінах павінны трапляць бялкі, тлушчы і вугляводы. Калі чагосьці не хапае, арганізм зноў-такі пачынае ствараць «запас».

Ёсць людзі з трыма тыпамі абменных працэсаў: нармальнымі, нізкімі і высокімі. Нармальнымі лічацца працэсы абмену, пры якіх на працу ўнутраных органаў ідзе каля паловы штодзённа спажываемай энергіі (800—1000 кКал). То бок, калі ў дзень у сярэднім чалавек спажывае 2000 кКал, палову гэтай энергіі расходуе сам арганізм, яшчэ палова ці траціцца падчас фізічных альбо разумовых нагрузак, ці пераходзіць у тлушч. Ёсць «шчаслівчыкі», якія трацяць усю энергію на ўнутраныя працэсы. Іншымі словамі — ядуць шмат і не таўсцеюць. Некаторыя ж з'ядаюць адну булачку і адчуваюць, што паправіліся.

Няправільнае і нерэгулярнае харчаванне — першае, што вядзе да парушэння абменных працэсаў і набору вагі.

### Тлустыя традыцыі

Нацыянальная кухня беларусаў, як і нашых бліжэйшых суседзяў, надзвычай каларыйная — дранікі, бліны, бульба, сала, свіныя кілбаскі. Гэта было абумоўлена шэрагам прычын, сярод якіх — умовы надвор'я, цяжкая фізічная праца. Каб падтрымаць арганізм, патрэбна была высокакаларыйная ежа. Сёння ж мы нават ходзім мала, не кажучы пра фізічныя нагрузкі. Мы прызвычаіліся да высокай тэмпературы ў кватэрах — 20—25 С. А кухня засталася тая ж.

Якія прадукты ў наш час можна цалкам выключыць з рацыёну без шкоды для здароўя, а якія трэба есці кожны дзень? Прапануем вашай увазе табліцу прадуктаў, якой карыстаецца дыетолаг Ларыса Барысевіч. А таксама — спецыяльнае здаровае меню для тых, хто хоча скінуць вагу ці падтрымліваць сябе ў форме.

**Аксана Рудовіч**

**Што есці, каб не паўнець?**

| Можна | Абмежаваць да 2-3 разоў на тыдзень | Нельга* |
|---|---|---|
| Гародніна (любая): вараная, тушаная, запечаная на алеі | Бульба вараная, запечаная (есці толькі разам з гароднінай, не з мясам ці рыбай). Цвёрдая макарона | Бульба смажаная, фры, дранікі, чыпсы |
| Мяса: курыца, індзейка, ялавічына, трус, пячонка, язык ялавічны. Прыгатаванне: адварное, тушанае, запечанае, грыль, шашлык. Курыца, індзейка — без скуры | Натуральная варана-запечаная вяндліна (нятлустая) Сала маласалёнае | Свініна тлустая, смажанае мяса |
| Малочныя прадукты: тварог 4%, ёгурт (лепш — бія) 3%, кефір і інш. кісламалочныя прадукты несалодкія, малако 1,5%, смятана 12—15%, яйкі (адвараныя, амлет) да 2 за дзень | Сыр (30-50 гр.) | Салодкія тварожныя і глазураваныя сыркі |
| Рыба і морапрадукты (гатаваць як мяса). Марская капуста | Ікра, палтус, стаўрыда. Маласалёная чырвоная рыба | Рыба салёная, вэнджаная |
| Фрукты і ягады: практычна ўсе. Асабліва карысныя: грэйпфрут, ананас. Цытрусавы напой: 1грэйпфрут + 1лімон + 2 апельсіны. Выціснуць сок, развесці 1л вады | Хурма, маліна | Бананы, вінаград |
| Сухафрукты: курага, чарнасліў, сушаныя яблыкі і грушы | Інжыр, разынкі | Фінікі, цукаты |
| Арэхі, семкі: да 100 г у дзень (да 17.00) | | |
| Кашы — 1 раз на дзень (сняданак ці абед), не хуткаразварыльныя. Варыць не менш за 3 хв. Не есці з мясам ці рыбай. | Проса, пярлоўка | Манка |
| Бабовыя: гарох, фасоля, соя, бабы | Кукуруза | |
| Грыбы: адварныя, тушаныя, запечаныя | | |
| Хлебабулачныя вырабы: хлеб жытні, з вотруб'я, мукі 1-2 гатунку. Хлябцы бяздрожджавыя (да 4 шт.за дзень) | Печыва сухое (галеты), аўсянае, піражаныя, тарты | Здоба (булкі на дражджах) |
| | Шакалад — да 20 г. у дзень (лепш чорны, ужываць з раніцы і днём), зефір 1 шт., мармелад | Марожанае, карамель, халва, ледзянцы (смактулькі) |

* можна ў невялікай колькасці, калі вы не ставіце перад сабой мэту пахудзець

**Карыснае меню**

**Сняданак (на выбар)**

1. Кашы: аўсянка, рыс, грэчка ці з 4-х злакаў
2. Сырнікі (з невялікай колькасцю мукі) ці тварожная запяканка
3. Салата з гародніны (запраўлены аліўкавым алеем і сокам лімона)+адваранае мяса (курыца ці ялавічына)
4. Амлет ці варанае яйка + біяёгурт ці сыр
5. Тварог (да 4% тлустасці)

**Абед**

Першае:

Салата са свежай гародніны, грыбоў ці морапрадуктаў. Запраўляць алеем, смятанай 12—15% тлустасці ці маянэзам уласнага прыгатавання.

ці

Супы: «вегетарыянскі» з гародніны +1 ст.лыжка смятаны, халаднік, капусны, рыбны, грыбны, гарохавы ці фасолевы суп, боршч, булён з курынымі фрыкадэлькамі. Можна на моцным курыным ці ялавічным булёне.

Другое:

Мяса (трус, ялавічына, курыца) ці рыба. Спосаб прыгатавання: адварное, запечанае ў духоўцы ці на рашотцы, тушанае, грыль. На гарнір: салата з гародніны (свежай ці тушанай).

ці

Рыс тушаны з гароднінай, спагеці з цвёрдай пшаніцы з гароднінай, грыбы тушаныя з гароднінай. Бульба адварная з гароднінай ці кефірам. Галубцы. Перац фаршыраваны. Катлеты паравыя (курыца, ялавічына) з гароднінай.

**На другі сняданак ці падвячорак**

1. Натуральныя гароднінныя сокі без цукру і кансервантаў
2. Фрукты ці ягады
3. Сухафрукты ці арэхі
4. Ёгурт ці кефір

**Вячэра (на выбар)**

1. Салата з гародніны
2. Салата з бурака (можна дадаць чарнасліў і арэхі) ці вінегрэт.
3. Салата з марской капусты (можна з морапрадуктамі).
4. Тварог 4-5% тлустасці
5. Кефір
6. Амлет з 2-х яек
7. Біяёгурт
8. Калі не ясі ў абед: рыба+салата з гародніны
9. Тушаная гародніна



Аўтар эратычнай фотасесіі ў метро выклаў здымкі ў інтэрнэт. «Я схіляюся перад смеласцю мадэлі, якая была са мной у той момант», — піша ён у сваім блогу. Але не ўсе спакойна ўспрынялі такую інфармацыю. 18 студзеня 21-гадовай студэнтцы прысудзілі 70 тысяч штрафу за здымкі аголенай у метро. Тым не менш, фота дзяўчыны абляцела ўсе СМІ.



«Мінская лыжня» прайшла на выходных. За перамогу традыцыйна змагаліся чыноўнікі розных рангаў і масцей. Тым не менш, месцы на п'едэстале займалі не толькі людзі.



Інаўгурацыя прэзідэнта Туркменістана Гурбангулы Мялікгулыевіча Бердымухамедава. На выбарах 12 лютага 2012 перамог з вынікам 97%.



Слуцкія паясы: з Вільні — у Мінск. З нагоды 94-х угодкаў аднаўлення літоўскай дзяржавы пасольства гэтай краіны прэзентавала рэдкія музейныя экспанаты. На фота: былы міністр замежных справаў Беларусі Пятро Краўчанка.

## Анекдоты

* * *

— Аляксандр Рыгоравіч, Венесуэла ў шоку ад дамоў, якія мы ім збудавалі.

— Я жа гаварыл, нужна іці туда, гдзе нас не знают!

* * *

iPhone — самы разумны тэлефон! У яго самы высокі адсотак уладальнікаў, якія значна дурнейшыя за свой тэлефон.

* * *

У адказ на запуск польскага спадарожніка па БТ яшчэ раз будзе прадэманстраваны чатырохсерыйны фільм «Талаш».

* * *

Гэта вельмі па-нашаму: са скандалам выбіраць таго, хто ў выніку займе апошняе месца на «Еўрабачанні».

* * *

Нестыкоўкі на «Еўрафэсце» выклікаюць значна большы грамадскі рэзананс, чым нестыкоўкі ў Ярмошынай.

* * *

Лукашэнка загадаў разабрацца з галасаваннем на «Еўрафэсце». Адказнай за выкананне даручэння прызначаная Лідзія Ярмошына.

* * *

На тэлебачанні расказвае бландзінка з БРСМ. «За канцы кіравання Кебіча мне было 3 гады. За Лукашэнкам мой узрост павялічыўся да 21 года. Карацей, рост быў. У гэтым ёсць заслуга Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, несумненна».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Станцыя Ратамка.** Сумныя з нашага боку заўсягды прыходзяць навіны. Вось і зноў: у нядзелю 29 студзеня было вяселле. Аж як паўпіваліся дзецюкі, дык пабілі свата і яшчэ шмат каго, а таксама пакалацілі ўсё на стале: талеркі, міскі, шклянкі і г.д. Тады прывезлі з Заслаўя двух стражнікаў, каторыя найбольшага буяна, Доўнара, звязалі і пагналі ў Заслаўе.

**«НН». №7. 1912.**

**Завяршыўся шосты па ліку нацыянальны конкурс «Мастацтва кнігі».** Сенсацыяй сталася ўзнагароджанне кнігі «Беларускія народныя крыжы» Міхася Раманюка. Гэтая кніга атрымала адразу тры дыпломы — бронзавую статуэтку «За найлепшае ўвасабленне беларускай тэматыкі» — ад беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў — і дзве ўзнагароды «За найлепшае выданне года» і «За найлепшы фотаальбом» — ад дзяржавы.

**«НН». №7. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 21.02.2012.
Замова № 831.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12